PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

**ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ**

№ 13 (2081) Год XLI Беласток 31 сакавіка 1996 г. Цана 70 гр. (7 000 ст. зл.)



*Крутымі дарогамі набліжаецца вясна.* Фота Пятра БАЙКО

Мікола Ваўранюк

## У абаронцаў рубяжоў

**— Пашпарты, калі ласка! Што добрага вязем? Колькі грошай? — упершыню ў жыцці назіраю цягнік на мяжы не як падкантрольны, а вачамі тых, што кантралююць. Склад з чатырох вагонаў праходжу туды і назад у кампаніі паручніка Славаміра Беразовіча. Заглядаем у некаторыя дзіры ў сценах, столі, у прыбіральнях, за покрыўкамі радыятараў. Праз станцыю Чаромха ідзе ў суткі адзін міжнародны цягнік, з Беластока ў Брэст і назад. У мінулым годзе вылавілі ў ім кантрабанду цыгарэт і спіртнога вартасцю ў 1,5 мільярда старых злотаў. Сцены ў адной схованцы могуць змясціць нават 80 літраў спірту.**

Снег, які так усім надакучыў гэтай зімою, для пагранічнікаў — дабрадзейства. На ім відаць кожны след, які звычайна гіне на чорнай, замерзлай грудзе.

— Мы цяпер не ўваходзім на 15-метровую паласу гранічнай дарогі, — кажа камендант погранзаставы ў Чаромсе капітан **Збігнеў Пятроўскі**, захоўваем яе як снежнае поле.

Рэспубліка Беларусь не спадзяецца на надвор'е, сваю мяжу ахоўвае, абапіраючыся на строгай, яшчэ савецкай сістэме: калючы дрот, 800-метровая гранічная паласа і на самай мяжы ўзараная зямля, шырынёю якіх васьмі метраў. Гэта выключае якое-колечы выпадковае, несвядомае перасячэнне мяжы з таго боку. Капітан Пятроўскі за ўсе гады сваёй службы такога выпадку не помніць.

— Ад нас то бывала, што хтосьці заблудзіўся, шукаючы грыбоў, але адтуль дык толькі мэтанакіраваныя дзеянні. Рэжуць драты, перакідаюць над імі складную драбінку або падкопваюцца і чым хутчэй да мяжы. Нам „сістэма" з беларускага боку моцна абля̀гчае працу, бо калі там такіх парушальнікаў не зловіць патруль, у хуткім часе атрымліваем паведамленне, што ў пэўным месцы на нашу тэрыторыю ўвайшлі няпрошаныя госці. Мы маем магчымасць адразу перакрыць ім шляхі. Летась на сем парушэнняў мяжы адно засталося не выяўленае. Мы запозна атрымалі сігнал і тры курды, грамадзяне Іракa, паспелі дабрацца да Сямятыч, адкуль на таксі ад'ехалі ў напрамку Варшавы.

* * *

У 1991 годзе Войскі аховы пагранічча былі перайменаваны на Гранічную ахову. Адначасна перайшлі з-пад камандавання міністра нацыянальнай абароны ў структуру Міністэрства ўнутраных спраў. Пагранслужбы падзеленыя на дванаццаць падраздзяленняў, адзін з якіх — Падляшскі аддзел Гранічнай аховы — пільнуе мяжу з Літвой (102,4 км) і Беларуссю (адрэзак да Буга — 240,3 км).

Сістэму аховы польскай мяжы называюць аперацыйна-патрульнай.

— Мы не хочам гарадзіцца калючым дротам, — гаворыць камендант Падляшскага аддзела ГА, маёр **Лешак Чэх**, — бо лічым, што ў аб'яднанай цывілізаванай Еўропе няма месца на такія метады. Будзем надалей працаваць сваімі спосабамі, эфектыўнасць якіх ацэньваем на 80%.

У 1995 годзе Падляшскі аддзел ГА затрымаў 503 крадзеныя машыны: 297 у Кузніцы-Беласточкай, 98 у Агародніках, 70 у Чаромсе і 38 у Будзіску. Апярэдзіў яго толькі сусед з поўдня — Надбужанскі аддзел, на тэрыторыі якога найбольшы гранічны пераход на ўсходзе Тарэспаль—Брэст.

Пагранічнікі з Беласточкага і Сувальскага ваяводстваў вылаўлівалі і іншыя тавары, вартасцю ў 18,5 мільярда старых злотаў, у тым ліку цыгарэт на 14 мільярдаў і алкаголю на 3 мільярды.

На мяжы функцыяніруюць два тыпы пастоў: кантрольна-прапускныя пункты і заставы. Першыя пільнуюць дарожных і чыгуначных пераходаў. Гэта яны, галоўным чынам, выкрываюць кантрабанду. Заставы пільнуюць зялёную мяжу і вылаўліваюць нелегальных „перамяшчэнцаў".

* * *

На жалезнай дарозе праз Чаромху найбольшы рух быў, калі савецкія, а пазней расейскія войскі пакідалі Усход-

(працяг на стар. 3)

Ганна Кандрацюк

## Агрэсіўны подых сучаснасці

Калісь вёска ішла на вёску, — успамінаюць сённяшнія пенсіянеры. Сёння, напрыканцы дваццатага стагоддзя, нічога не змянілася. Нават на забаве ў Тыневічах усё можа здарыцца.

— Бойкі, нармальная справа! — гаворыць 19-гадовы паклоннік вясковых музыкаў.

У Т. б'юцца і хлопцы, і дзяўчаты. Дамская агрэсія, праўда, нядаўняя з'ява і ўспрымаецца не зусім сур'ёзна.

— Тады ўсе смяюцца, — пераконвае Анджэй К., студэнт беласточкай політэхнікі.

Але Славік С. не смяяўся. Дагэтуль ён не ведае за што яго дзяўчаты пабілі. Кінуліся на яго знянацку, скалацілі і адлупцавалі вайсковымі паясамі.

— Хто б падумаў, — гадае Анджэй К. — усе прыгажуні, прыкладныя дочкі і вучаніцы сярэдняй школы. Дзяўчаты б'юць не толькі хлопцаў.

У Рудаўцы, на той прыклад, ненавідзяць прыезджых прыгажунь, праўдападобна патэнцыяльных сапернiц. Галіна К., ліцэістка, пасля забавы ў Р. па сённяшні дзень сніць кашмар. Яе і сяброўку пабілі за звычайную прысутнасць. Вывелі іх за святліцу, акружылі і да непрытомнасці пабілі. А вясковыя быццам таго і чакалі. Хлопцы рагаталі і падбадзёрвалі незвычайных сяброўак.

* * *

Канфлікт паміж моладдзю з Курашава і Кленік цягнецца здаўна. Пачалося ад бойкі на вясковай забаве. Быў час лянівых канікул і моладзь патрабавала мацнейшых уражанняў. Пазней вёска пайшла на вёску, а дакладней пачала наязджаць матацыкламі і самаходамі. Многія згубілі зубы, паламалі так патрэбныя ў гаспадарцы рукі, выматалі нервы. У канфлікт заангажаваліся нават бацькі. Дайшло, што справа апынулася ў судзе. Але аўтарытэт бацькоў не заўсёды гарантуе бяспечнасць.

У Піліпках, на той прыклад, у белы дзень пабілі хлопца. Раз'юшаныя аднагодкі сілком выцягнулі юнака з хаты і на вачах бацькоў брутальна расправіліся з адпачапенцам.

Нават у святых месцах сфрустраваныя маладзёны не забываюць пра свае крыўды. У час маладзёжнага паломніцтва на Святую Гару Грабарку ўспыхнуў рукапашны бой паміж Відавам і Кленікамі. Маладзёны, быццам продкі-неандэртальцы, змагаліся пры дапамозе тлеючых галавешак з супольнага вогнішча.

* * *

Быццам баталістычная карціна з'ў-

(працяг на стар. 4)

# Мы прачыталі

*Тысячы кантрабандыстаў-карабейнікаў цалкам легальна перасякаюць беларуска-польскую мяжу. Абмяжоўваюцца цыгарэтамі і спіртам. Праўда, не такі гэта цяпер аплатны бізнэс. Зарабіць на кожнай бутэльцы ўдаецца самае большае тры даляры. Але ўсё адно, жыць неяк трэба. Заводы спыніліся, працы няма. Таму сёньня, вось такой кантрабандай і проста прыгранічным гандлем зарабляе немалая колькасьць жыхароў Гродна і яго ваколіц.*

*Свабода, н-р 11*

Спірт, які прадукуецца ў Польшчы і прадаецца ў Беларусі, калі два разы правезці яго цераз мяжу, становіцца напалову таннейшы, чым той жа прадукт, які не перасякаючы мяжы, прапануецца пакупнікам у крамах Беластока. Гэта не цуд, а проста больш лібералізаваная сістэма базарнага гандлю дае магчымасць грамадзянам абедзвюх краін зарабіць і павесяліцца.

* * *

*Księżom i katechetom trzeba płacić za ich pracę w szkole, bowiem wszyscy nauczyciele powinni mieć równe prawa i obowiązki — zgodnie twierdzą przedstawiciele Episkopatu i MEN. Nie jest jasne, czy dyrektor będzie mógł np. wysłać księdza na dyżur na korytarzu.*

*Gazeta Wyborcza, nr 56*

Цікава, ці знойдзецца такі адважны!

* * *

*Jeszcze pod koniec minionej dekady Związek Radziecki był niekwestionowanym liderem europejskiej klasyfikacji gospodarczej. Ludziom żyło się marnie, ale łączny produkt krajowy był imponujący. Na samą Rosję przypadało 588 miliardów dolarów. Cztery lata później sytuacja diametralnie się zmieniła. Niekwestionowanym liderem w Europie są Niemcy. Trzykrotnie większy niż w Rosji jest produkt krajowy Francji, Włoch, Wielkiej Brytanii. Produkt krajowy Rosji niesłychanie skarlał. Jest on 4,5 raza mniejszy od tego, jaki swego czasu wytwarzał Związek Radziecki, i półtora raza mniejszy od tego, jaki rejestrowała sama Rosja w czasach swojej „świetności". Zdaniem ekspertów rosyjskich Rosja dopiero około 2005 roku odzyska potencjał gospodarczy, jaki miała dwie dekady wcześniej.*

*Polityka, nr 8*

* * *

*Беларусы — самая антыкансерватыўная нацыя. Мы не маем нічога свайго, імкнемся куды-небудзь уліцца, аб'яднацца, растварыцца. Сям'я, рэлігія, закон, нацыя, дзяржава, уласнасьць — для большасьці насельніцтва гэта, па сутнасьці, пустыя словы.*

*Свабода, н-р 12*

* * *

*Polscy politycy są grupą ludzi słabych i zakompleksionych. Rodzice, nauczycielki, a potem koledzy-działacze rozpieścili ich, utwierdzając w przekonaniu, że nigdy się nie mylą. Wszyscy razem dopuścili się gwałtu na ich zdrowym rozsądku.*

*Wprost, nr 40*

* * *

*Святкаванне 40-годдзя БГКТ пачалося ўрачыстым пленумам Галоўнага праўлення Таварыства з удзелам гасцей. (...) Былі (...) і з беларускага боку прадстаўнікі грамадскіх арганізацый. Уладзімір Русакевіч зачытаў Указ Прэзідэнта А. Лукашэнкі аб узнагароджанні старшыні ГП БГКТ Яна Сычэўскага (...) медалём (...). Вечарам святкаванне перамясцілася ў вялікую залу спартыўнага комплекса „Влукняж". Атмасфера — цёплая, узнёслая і вельмі дэмакратычная. Двойчы выходзіў на сцэну прэм'ер-міністр Польшчы. Ён абвясціў віншавальнае прывітанне ад прэзідэнта краіны і ўручыў ад яго імя ўзнагароды некаторым актывістам БГКТ (...). Праўда, Уладзімір Цімашэвіч — з беларусаў. (...) А потым быў гала-канцэрт. Ён працягваўся некалькі гадзін. Што то было за свята!.. Уладзімір Цімашэвіч і яго жонка, Уладзімір Русакевіч і члены беларускай дэлегацыі стаялі ў акружэнні людзей і спявалі (...),* — піша Уладзімір Мялешка, старшыня Таварыства „Радзіма".

*Голас Радзімы, н-р 10*

Яшчэ нядаўна падобныя падзеі так прадстаўляла „Ніва". Колькі тут цяпла, колькі дэмакратычнага духу! Łza się w oku kręci!

* * *

*Wszechobecne na Ukrainie pragnienie dolara uderza przybysza zaraz po wylądowaniu. Pragnienie intensywne, niemal biologiczne. W kantorach, których w centrum Kijowa jest więcej niż kiosków, kasjerzy nigdy nie chcą wydać reszty z dużych nominałów. Niektórym ludziom, którzy mówią o dolarach, głos się zmienia. Nabiera mocniejszej barwy, donośności. Trzynaście milionów emerytów na Ukrainie otrzymują miesięcznie 17 dolarów renty. Chodzą po sklepach na Kreszczatiku jak po muzeum. Szynka — dziesięć dolarów, żółty ser — pięć. Postoją, pooglądają i idą dalej.*

*Obliczono, że w latach 1990-1993 poziom życia na Ukrainie spadł dziesięciokrotnie. Socjolog ukraiński opublikował nawet artykuł pod tytułem: „Dlaczego jeszcze żyjemy?", bo właśnie w szpitalach ograniczono liczbę posiłków dla pacjentów do jednego dziennie. Pozbawieni nadziei i perspektyw ludzie piją. Piją wszędzie — w biurach, szpitalach. Pewien Francuz podczas wizyty służbowej w Kijowie pośliznął się i złamał rękę. Zaraz pojechał do szpitala założyć gips, a tam dyżurny chirurg pijany. Postękując Francuz udał się do innego szpitala. Ale tam chirurg był także pijany. Pijani byli również chirurdzy w trzecim, czwartym szpitalu, co Francuzowi wydawało się nie do uwierzenia. W tej sytuacji półżywy z bólu, kupił bilet na samolot i poleciał założyć sobie gips do Paryża, gdzie akurat lekarz był trzeźwy. Niepotrzebnie się bał, ponieważ ukraińscy lekarze po pijanemu codziennie składają dziesiątki rąk i nóg. I one się zrastają.*

*Polityka, nr 10*

Баязліўцы гэтыя жабаеды.

# З мінулага тыдня

**У Беластоку** пад старшынствам **архіепіскапа Савы** адбылася нарада Праваслаўнага палявога ардынарыята Войска Польскага сумесна з велікапосным гавеннем. Удзел у ёй прымала 32 асобы, у тым ліку 16 капеланаў, а таксама вайсковыя і свецкія супрацоўнікі ардынарыята з усёй Польшчы. Мэта нарады — падвядзенне вынікаў мінулагодняй дзейнасці ардынарыята і намечанне задач на гэты год. Праваслаўныя вайсковыя прыходы працуюць ужо ў Беластоку, Цехацінку, Гданьску, Варшаве і Вроцлаве, плануецца стварэнне прыхода ў Пярэмышлі.

**IV Міжнародны тыдзень тэатра** прыцягнуў у Беласток акцёраў з Санкт-Пецярбурга, Менска, Вільні, Осла, Нью-Йорка і Барселоны ў Венесуэле. На сцэне мясцовага драмтэатра **Акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы з Менска** паказаў беластоцкай публіцы спектакль „Любоў і гнеў" англійскага драматурга Джона Осбарна.

**У бюджэце горада Беластока**, які быў прыняты пастановай Гарадской рады ад 26 лютага 1996 г., прадугледжана **23 000 новых зл.** датацыі для таварыстваў і культурных арганізацый нацыянальных меншасцей.

**Беластоцкі Клуб каталіцкай інтэлігенцыі** праводзіць акцыю збору дароў для жыхароў **Пружан і Шарашова** ў Беларусі. Лякарствы, харчы, абутак і вопратка трапяць перад Вялікаднем у каталіцкія прыходы, праз пасрэдніцтва якіх будуць раздавацца найбольш патрабуючым.

**У Беларусі і Літве** беластоцкая садавіна і гароднiна карыстаюцца вялікім попытам. Мяркуецца, што каля 25% абаротаў фруктова-агароднiннай біржы ў Беластоку — гэта здзелкі купцоў з-за ўсходняй мяжы. Яблыкі, якія на біржы прадаюцца па 2—2,50 зл. за кілаграм, у Беларусі каштуюць удвая даражэй.

**Чужаземцы**, якія прыязджаюць на Беласточчыну з усходняга напрамку, атрымаюць на граніцы лістоўку, распрацаваную Ваяводскай камендатурай паліцыі. У ёй будзе змешчана некалькі парад (на польскай і рускай мовах) на тэму, як засцерагчыся ад, галоўным чынам рускамоўных, рэкеціраў на польскіх дарогах.

**Кшыштоф Вольфрам** — беластоцкі пасол Уніі вольнасці, паслаў ліст міністру аховы асяроддзя **Станіславу Жаліхоўсккму** з прапановай арганізаваць сустрэчу, прысвечаную пашырэнню Белавежскага нацыянальнага парку. На думку парламентарыя, улады гмін, аб'яднаных у **Згуртаванні гмін Белавежскай пушчы**, не былі да гэтай пары дастаткова праінфармаваны аб намерах цэнтральных улад у справе пашырэння парку і аб магчымасцях прэферэнцыйнай трактоўкі гэтых гмін.

**II Польскі птушыны фестываль** адбудзецца ў днях 11—19 мая г.г. у **Бандарах** над Семяноўскім вадасховішчам. Арганізатары разлічваць, што ў імпрэзе прыме ўдзел больш за сто замежных любіцеляў прыроды і назірання за птушкамі. Фестываль — адно з мерапрыемстваў т.зв. спецыялістычнага турызму, які прапануе яшчэ веласіпедныя экскурсіі па Кнышынскай і Белавежскай пушчах, байдарачныя паходы, рыбалку, паляўніцтва і назіранне за прыродай.

# Неўзабаве ў „Ніве"

- ⇨ **Хто стварыў і хто знішчыў Грамаду** — у святле навейшых доследаў беларускіх гісторыкаў.
- ⇨ **Патока ў агні** — рэпартаж Аляксандра Максімюка пра пацыфікацыю вёскі.
- ⇨ **Працяг успамінаў з бежанства**.

# Весткі з Беларусі

**Інтэгратары ў дзеянні**

Распараджэннем Аляксандра Лукашэнкі створана камісія па вядзенні перамоў, звязаных з падрыхтоўкай праекта дагавора, які вызначае прынцыпы і асноўныя накірункі далейшага ўсебаковага збліжэння Беларусі з Расеяй. У склад камісіі ўвайшлі высокапастаўленыя асобы з адміністрацыі прэзідэнта, урада і шэрагу міністэрстваў ды ведамстваў.

**Пратэсты прыхільнікаў дзяржаўнасці**

Кіраўніцтва БНФ выступіла ўжо з другой заявай, у якой асуджае намаганні выканаўчай улады інтэграваць Беларусь з Расеяй. „Дасягнутымі ў Маскве дамоўленасцямі, — пішацца ў заяве Сойму БНФ, — перад усім светам быў прадэманстраваны цынічны гандаль беларускім суверэнітэтам, нацыянальнымі, палітычнымі і эканамічнымі інтарэсамі". Лукашэнка і Ельцын пры гэтым, лічыць кіраўніцтва Фронту, пераследуюць свае прыватныя інтарэсы. Барыс Ельцын хоча за кошт паглынання Беларусі выйграць прэзідэнцкія выбары, а Аляксандр Лукашэнка спадзяецца ўмацаваць рэжым свае аднаасабовай улады ў Беларусі, а потым праз гвалтоўнае ўвядзенне двайнога грамадзянства патрапіць і на вяршыню расейскай улады. Устрывожаны ідавочным рухам „да страты дзяржаўнасці Беларусі, які ўзначаліў і адкрыта праводзіць у жыццё прэзідэнт А. Лукашэнка", Грамадскі навукова-аналітычны цэнтр „Беларуская перспектыва" заявіў аб неабходнасці „стварэння Камітэтаў беларускіх грамадзян, якія аб'ядноўваюць прыхільнікаў дзяржаўнасці і парламентарызму, пачнуць працу дзеля абароны Канстытуцыі".

**Дэнансацыя белавежскіх пагадненняў**

Расейская Дума, па прапанове дэпутатаў-камуністаў, адмяніла пастанову Вярхоўнага Савета РСФР ад 12 снежня 1991 года і асудзіла роспуск Савецкага Саюза. Прэзідэнт Ельцын назваў гэтую пастанову скандальнай. З яе рэзкай крытыкай выступілі таксама парламентарыі і кіраўнікі былых савецкіх рэспублік. Толькі прэзідэнт РБ Аляксандр Лукашэнка станоўча ацаніў рашэнне Думы, якое палічыў падтрымкай для сваіх інтэграцыйных намаганняў.

**Меркаванні экс-спікера**

Былы старшыня Вярхоўнага Савета РБ Станіслаў Шушкевіч, які ў 1991 г. падпісваў ад імя Беларусі белавежскія пагадненi, раскрытыкаваў рашэнне расейскай Думы, сказаўшы наступнае: „Белавежскія пагадненні заклікалі да інтэграцыі, да еднасці (непрымусовай), але іх ніхто не чытае, хаця ўсе асуджаюць. Гэта перадвыбарчая барацьба ў Расеі. Большасці ў Думе не падабаецца Ельцын і яны змагаюцца з ім як могуць. Што тычыцца нашага прэзідэнта, то ў яго ўласнай пазіцыі няма; у яго можа быць толькі прарасейская пазіцыя і падпарадкаванне расейскаму дыктату. Каб быць сапраўдным палітыкам, трэба разумець, што такое палітыка. На жаль, у нашага прэзідэнта гэтага разумення няма".

**Акцыя савецкіх „патриотов"**

У пятую гадавіну рэферэндуму аб захаванні СССР Менская абласная арганізацыя Народна-патрыятычнага руху „Отечество" праводзіць збор подпісаў за дэнансацыю белавежскага пагаднення. Ініцыятыўная група мае намер сабраныя подпісы ў абласцях рэспублікі прадставіць прэзідэнту і Вярхоўнаму Савету.

**За свабоду слова**

У Менску адбылася нацыянальная канферэнцыя выдаўцоў незалежнай прэсы. Яе арганізатарамі выступілі Беларуская асацыяцыя журналістаў і Інстытут дэмакратыі ва Усходняй Еўропе з Варшавы. Падчас пленарных пасяджэнняў і ў тэматычных секцыях абмяркоўваліся праблемы стану свабоды слова, матэрыяльныя ўмовы існавання прэсы і падрыхтоўка журналісцкіх кадраў.

**Задушаны банкір**

Супрацоўнікі міліцыі выявілі новыя акалічнасці па факце знікнення старшыні праўлення Беларускага медыцынскага банка Уладзіміра Валадзько. Як высветлена, кіраўнік фінансавай установы быў задушаны ў офісе банка і пахаваны ў лясным масіве каля адной з вёсак Менскага раёна. Па падазрэнні ва ўчыненні злачынства затрыманы начальнік службы бяспекі, ахоўнік і шафёр адной са сталічных фірмаў, а таксама студэнт адной з менскіх ВНУ. Пяты саўдзельнік знік.

# У абаронцаў рубяжоў

нюю Нямеччыну. Цяпер абарот таварамі — мізэрны. Пасажырскі рух, гэта ўспомнены цягнік, якім у прошлым годзе мяжу ў два бакі пераехала крыху больш за 90 тысяч асоб. Сістэматычна, затое, расце рух на нядаўна адкрытым дарожным пераходзе Полаўцы—Пяшчатка. Летась у гэтым месцы мяжу пераехала 500 тысяч грамадзян Польшчы і Рэспублікі Беларусь, прычым гэтых другіх амаль 400 тысяч. Два гады таму рух тут быў два разы меншы.

— Галоўная наша задача, — кажа камендант КПП у Чаромсе, капітан **Анджэй Венцлаў**, — гэта праверка дакументаў. Пільнуем, каб ніхто не пераехаў мяжу без пашпарта, ці з фальшывым або крадзеным пашпартам. Часамі даводзіцца правяраць аўтамабіль даўжэй і тады падарожныя вымушаны чакаць, нервуюцца. Гэта, зразумела, датычыць толькі некаторых, але мы стараемся, каб кантроль праходзіў як найскарэй. Цяпер мы падключаныя да добрай камп'ютэрнай сістэмы, дык будзем спадзявацца, што такія праверкі стануць чыста руціннымі. Ужо, практычна, машыны з Польшчы выязджаюць у нас без чаргі. На ўезд трэба чакаць найчасцей ад дзвюх да дзесяці гадзін.

Найлепш праз Полаўцы вяртацца з Беларусі ў пачатку тыдня. Тады, бывае, пашанцуе, што на мяжы зусім пуста.

Аднак, нават у такім, здавалася б, сонным месцы, як Чаромха, можа быць небяспечна.

— Функцыянерам Гранічнай аховы пагражае нават страта здароўя, — кажа капітан Венцлаў. — У мінулым годзе два нашы пагранічнікі былі пабіты на чыгунцы кантрабандыстамі. Адзін з агрэсіўных падарожных атрымаў за гэта год турмы. На дарожным пераходзе падчас вяртання п'яны паляк пачаў авантуру з пагранічнікамі. Затым узяў бак з бензінам, пачаў разліваць вакол нашага будынка, хацеў падпаліць.

Капітан Пятроўскі лічыць, што на заставе 1995 год быў такім, якіх пагранічнікі могуць жадаць сабе і ў будучыні.

— Як на ўсходзе рухнуў Савецкі Саюз, як заварушыліся афганцы, курды, невядома было за што брацца, — успамінае ён. — Але гады практыкі не прайшлі бясследна і якраз мы навялі парадак. Дапамагае нам цяпер кандыдацкая служба (тое, што ў войску прызыўнікі — М.В.), якая падвоіла нашы шэрагі і ўсё лепшая тэхніка: машына „Ландровер", радыёстанцыі, нактавізары.

Нелегальныя парушэнні мяжы, гэта на думку капітана Пятроўскага, не самае горшае. Больш пагранічнікаў непакоіць тое, што мяняецца характар прыгранічнай тэрыторыі, што паталагічныя з'явы пераносяцца з цэнтра на перыферыю.

— Калісьці рэдка можна было сустрэць кагосьці ў машыне на варшаўскіх нумарах, — заўважае камендант, — хто б купляў тут грыбы, або алкаголь. Або і даваў перахоўваць аўтамашыны. Чэсныя людзі глядзяць на гэтую нелегальшчыну, бачаць, як растуць некаторыя фартуны на кантрабандзе і непакояцца. Мушу прызнацца, што і ў нашай працы, якая ў вялікай ступені залежыць ад добрага сужыцця з мясцовым насельніцтвам, крымінальны элемент зрабіў пэўнае замяшанне.

* * *

Неўзабаве можа здарыцца так, што мяжа аб'яднанай Еўропы перасунецца з Одры на Буг. Ці рыхтуюцца да гэтага польскія пагранічнікі?

— Так, — адказвае камендант Лешак Чэх, — прадбачваем новыя магчымыя небяспекі: рост нелегальнай міграцыі, адкрыццё новых шляхоў гандлю наркотыкамі, зброяй. Мы будуем новыя пагранічныя заставы, рыхтуемся да супрацоўніцтва з калегамі з Захаду, вывучаем мовы, нямецкую, англійскую. З рускай і літоўскай спраўляемся без праблем.

Беларуская мова ахоўнікам аб'яднанай Еўропы не будзе патрэбная. Па віне саміх беларусаў.

**Мікола Ваўранюк**

# Радыёапытальнік

*Паважаныя чытачы „Нівы"! Рэдакцыя праграм для нацыянальных меншасцей Радыё Беласток звяртаецца да вас з просьбай адгукнуцца на наш апытальнік. Гэта будзе для нас каштоўны ўказальнік як працаваць у будучыні, каб па меры магчымасці задаволіць як найбольш слухачоў беларускіх перадач.*

**Ankieta słuchalności i ocena programów w jęz. białoruskim**

Wyniki ankiety posłużą nam w redagowaniu programów w doborze tematyki poruszanych problemów, dlatego też prosimy o rzetelne wypełnienie ankiety. Wśród respondentów rozlosujemy interesujące nagrody.

I. Jak często słucha pan(i) audycji w języku białoruskim?

— codziennie

— raz w tygodniu — jaki to dzień?

— okazjonalnie.

II. Jak oceniana jest techniczna jakość audycji?

— zła, średnia, dobra.

III. Czy godziny nadawania audycji są właściwe?

— tak, nie, inne propozycje.

IV. Jak oceniacie Państwo tematykę poruszaną w audycjach (ocena od 0 do 5), czego za mało, czego za dużo.

— prezentacja zespołów folklorystycznych

— felietony stałych współpracowników

— przegląd prasy

— korespondencje z Białorusi — Grodno, Mińsk

— telefoniczne rozmowy ze słuchaczami

— koncerty życzeń

— konkursy

— tematyka wiejska

— tematyka historyczna

— problematyka gminna i samorządowa

— problematyka religijna

— tematy oświatowe

— tematy literackie

— problematyka młodzieżowa

— wywiady z działaczami, ludźmi kultury, politykami

— reportaże z regionu i Białorusi.

V. Ocena muzyki w audycjach białoruskich (ocena od 0 do 5).

— piosenki ludowe z Białostocczyzny

— folklor z Białorusi

— muzyka rockowa

— muzyka operowa

— piosenka autorska

— muzyka współczesna

— muzyka religijna

— muzyka typu disco-polo

— piosenki w języku innym niż białoruski

VI. Czy jest pan(i) za wykorzystaniem w audycjach dialektów językowych?

— nie, tak, maksymalnie, minimalnie, średnio

VII. Jakich autorów i współpracowników najbardziej lubicie. Skąd bierze się ta popularność?

— Janina Czerniakiewicz

— Jan Czykwin

— Sokrat Janowicz

— Jerzy Leszczyński

— Antoni Mironowicz

— Joanna Niemczynowska

— ks. Grzegorz Misijuk

— Włodzimierz Pac

— Włodzimierz Prochowicz

— Mikoła Sacharewicz

— Mikołaj Wawrzeniuk

— Marek Zabrocki

VIII. W jakim języku rozmawiają Państwo w domu?

— polski, białoruski, dialekty jęz. białoruskiego, inne

IX. Inne uwagi dotyczące audycji w języku białoruskim.

X. Informacja o słuchaczu.

— miejsce zamieszkania: Białystok, inne miasto, wieś

— zawód: rolnik, pracownik zawodowy, uczeń, student, bezrobotny, emeryt

— wiek

— wykształcenie: niepełne podstawowe, podstawowe, zawodowe, średnie, wyższe, inne

Ankiety prosimy przesyłać na adres:

ANKIETA Audycji Białoruskich
15-328 Białystok
ul. Świerkowa 1

З прычыны смерці

**Галіны Хмялеўскай**

словы спачування
мужу і дзецям
выказвае
Галоўнае праўленне
БГКТ у Беластоку.

Рэдактару
**Міхасю Хмялеўскаму**
словы шчырага
спачування і шкадавання
з прычыны
напаткаўшага Яго гора —
смерці

**жонкі Галіны**

выказвае калектыў „Нівы".

# Дзякуем усім тым,

хто быў з намі ў цяжкі час хваробы Марылі. Сотні людзей, не толькі сяброў і знаёмых, але і зусім чужых не засталіся абыякавымі да нашага гора. Добраахвотныя ўзносы на аперацыю паступалі з усяе Польшчы. Многія праводзілі Марылю ў апошнюю дарогу.

Усім вам выказваем сваю ўдзячнасць.

**Блізкія**
**Марылі Базылюк-Саснюк**

# Адгалоскі

Згаджаюся з М. Лук'янюком у першай частцы сказа: „... селяніну было кепска, ёсць кепска...", („Мая думка" — „Ніва" ад 25.02.1996 г.). Напэўна было кепска. У 1949—50 гадах ўлада пачала па вёсках арганізаваць калгасы па ўзору сельскай гаспадаркі Савецкага Саюза. Рабілася гэта пры дапамозе вясковых членаў партыі, беднякоў і ўсяго роду гультаёў. Апрача гультаёў, якім заўсёды лёгка, селяніну было вельмі кепска. На вёсцы былі знішчаны эканамічныя падставы большасці добрых і сярэдніх гаспадарак. Селянін да калектывізацыі меў, можна сказаць, усё патрэбнае да гаспадаркі і да жыцця. За міжваеннае дваццацігоддзе, пасля бежанства, намагаючыся, селянін пабудаваў хату, гаспадарчыя будынкі, набыў жывёліну, пачаў жыць як чалавек. Пасля вайны, калі дзяржава патрабавала збожжа, мяса, селяніну не было так кепска, на ўсе яго прадукты быў збыт. Але ўлада ведала лепш, што для чалавека добрае, а што кепскае і таму калгаснік меў усё і нічога — ні каровы, ні вяроўкі. Бяда заглянула ў вочы большасці сем'яў. Адным словам, селяніну было кепска, не толькі тады, але потым, пасля 1956 года, калі трэба было зноў гаспадарыць на сваёй запушчанай зямлі без каня і воза.

Гамулкаўскі перыяд высмоктваў з вёскі ўсю прадукцыю. Цяжка было як халера. Помню як бацька вазіў бычка тры дні на скупку, каб прадаць, а не аддаць, і не мог яго збыць, хаця ў мясных магазінах не было мяса. Затым як можа быць селяніну добра, калі возіць свой тавар у горад, і ніхто не хоча яго купіць. Купіць — бо за дарма ахвотных узяць было многа. Нешта палягчэла пры Герку і Ярузельскім. А калі настаў капіталізм, зноў пагоршала. Прытым аказваецца, што сельская гаспадарка ў параўнанні з сельскай гаспадаркай дзяржаў заходняй Еўропы адстае на дзесяткі гадоў.

І тут М. Лук'янюк прарочыць, што селяніну „будзе яшчэ горш". З гэтай часткай сказа не згаджаюся. Не згаджаюся таксама з наступным меркаваннем: „не паможа яму ніякі рэферэндум, бо нічога ад яго селянін не дастане (...), нічога добрага дэмакратыя селяніну не дала, а хоча выцягнуць з яго астатнія сокі (адкуль М. Лук'янюк ведае, што хоча і астатнія? — М.К.), каб высах як прыдарожнае дрэва (прыдарожнае дрэва не заўсёды высыхае — М.К.)".

Калі прымем, што „камуна" не вернецца, бо ходу падзей вярнуць нельга, то ў актуальнай капіталістычнай сістэме фактычна чалавек пакінуты сам сабе. Пры „камуне" таксама так было, толькі мы цяпер як бы аб гэтым прызабылі. Уладу не цікавіла, ці гаспадар меў чым накарміць сям'ю і жывёлу. Трэба было аддаць нарыхтоўку мяса, збожжа, малака. Трэба ўсвядоміць сабе, што мінуў час, калі хтось камусь штосьці „даваў". Гэта нават было б не па-хрысціянску, каб браць без працы. Калі прыняць пункт гледжання М. Лук'янюка, то настаўніку дэмакратыя таксама павінна даваць, а рабочы ж не горшы, а інтэлігент? Затым, выходзіць, што дэмакратыя, як дойная карова, усіх абдзеліць малаком. Толькі хто яе накорміць, спадар М. Лук'янюк, каб было тое малако ў яе.

Трэба пакінуць думку, што нам штосьці належыцца, не запрацаваўшы на гэта. Але не кожная праца, аказваецца, патрэбная. Можна нарабіцца без ладу і складу, і наракаць, што ўсё надарэмна, бо ніхто не хоча яе купіць. Адным словам: без розуму, адукацыі, культуры ні туды, ні сюды.

**Міхась Купцэль**

# Каму патрэбны хлусні аб Грамадзе?

Семдзесят гадоў таму на Беласточчыне масава пачалі ўзнікаць гурткі Беларускай сялянска-работніцкай грамады. Гэта беларуская палітычная партыя стала феноменам не толькі ў маштабе Польшчы, але і Еўропы, паколькі ніводная еўрапейская палітычная група не заваявала такой масавай падтрымкі, якую за два гады дзейнасці атрымала БСРГ у Заходняй Беларусі. Усе гісторыкі згодна пацвярджаюць лік 100 000 членаў Грамады ў момант яе роспуску ў сакавіку 1927 года тадышняй польскай адміністрацыяй.

Аб беларускай Грамадзе пісалася многа і з вялікай дэталёвасцю. Аднак даследчыкі ў далейшым спрачаюцца, напрыклад, аб ступені ўплыву, якія на Грамаду аказвала Камуністычная партыя Заходняй Беларусі. Гэтая праблема выцякае з няпоўнага ведання крыніц, якіх частка далей захоўваецца ў Мінску і Маскве ў тамашніх архівах былых савецкіх спецслужбаў. І цяжка сказаць, калі гісторыкі змогуць пакарыстацца гэтымі ўсё яшчэ сакрэтнымі матэрыяламі.

Апошнім часам на Беласточчыне публічна была вынесена праблема Грамады ў зусім своеасаблівым плане, які можна было б назваць ідэалагічным. Дык вось у органе Саюза ўкраінцаў Падляшша, двухмесячніку „Над Бугом і Нарвою", спярша Юрый Гаўрылюк у артыкуле „Дзейнасць левых і беларускіх арганізацый у Бельскім павеце" (н-р 3/95, стар. 21—23), а пасля Раман Высоцкі ў тэксце „Беларуская сялянска-работніцкая грамада ў Бельскім павеце" (н-р 5/95, стар. 27—28) заявілі, што ў былым Бельскім павеце беларускую Грамаду арганізавалі „украінскія дзеячы" або — зусім адкрыта — „украінцы". Да якіх новых крыніц дайшлі гэтыя маладыя людзі, каб мець падставы даваць такія фармуліроўкі?

На жаль, ніякіх сенсацыйных фактаў з паловы дваццатых гадоў аўтары публікацый не прыводзяць. Пытанне Грамады ацанілі аднак па-свойму, у надта асаблівы спосаб. Варта ў гэтым месцы працытаваць Р. Высоцкага, які піша: „Склаўшыся ў пасляваенны перыяд вобраз Бельскага павета, паказвае яго як тэрыторыю актыўнай дзейнасці беларускіх арганізацый. І сапраўды, вялі тут сваю дзейнасць арганізацыі, якія паўсюдна прызнаваліся беларускімі, але ў адносінах да гэтай тэрыторыі былі яны такімі толькі па назве, а не з увагі на нацыянальны склад". Крыху далей піша: „Паколькі аднак аб БСРГ агульна гаворыцца, што яе членамі былі беларусы, то ў мясцовых умовах нацыянальны склад партыі мог не супадаць з агульна прынятым узорам. У яе радах паявіліся такім чынам, побач беларусаў, літоўцы, палякі і ў самай вялікай колькасці ўкраінцы". У якасці доказу для падмацавання сваіх „адкрыццяў" Р. Высоцкі назваў двух „украінскіх дзеячаў", якія ў былым Бельскім павеце належалі да Грамады: Хведара Чарняўскага з Міклашоў і Васіля Касьянюка — праўдападобна са Шчытоў. Аднак супастаўляючы толькі два (!) прозвішчы „ўкраінскіх дзеячаў" — не называючы іх чыноў у арганізацыі — з ацэненай ім самім лічбай каля 1 500 членаў у былым Бельскім павеце, узнікае сумненне, ці існуюць падставы для таго, каб пісаць пра „ўкраінскасць" Беларускай сялянска-работніцкай грамады на поўдні Беласточчыны.

Тымчасовы павятовы камітэт Грамады ў канцы 1926 г. састаўлялі: старшыня — Аляксандр Вашкевіч з Белавежы, сакратар — Кандрат Іванюк з Вітава, скарбнік — Карп Куптэль з Орлі. Гэты апошні напісаў ва ўспамінах, што ў Орлі ў снежні 1926 г. было амаль 100 членаў Грамады, а самых гурткоў у павеце — каля 60. Ён менавіта заснаваў гурткі, між іншым у Міклашах, Шчытах-Дзенцялове і Шчытах-Навадворах. Карп Куптэль, пішучы аб беларусах, ані словам не ўспомніў аб „украінскіх дзеячах". У сямідзесятую гадавіну Беларускай сялянска-работніцкай грамады супрацоўнікі „Над Бугом і Нарвою" напісалі зусім нешта іншае.

Цяпер гісторыкі могуць дэталёва вывучыць біяграфію адной з названых Р. Высоцкім асоб, паколькі ў Дзяржаўным архіве ў Беластоку знаходзяцца персанальныя акты Хведара Чарняўскага. У ліку гэтай дакументацыі знаходзяцца біяграфіі Х. Чарняўскага, розныя дэкларацыі і анкеты, а таксама немалая колькасць карэспандэнцый, якія выйшлі з-пад яго ўласнага пяра ў 1945—1947 гадах. У архіве захоўваецца арыгінальны білет члена Грамады ад 1926 г. У дэкларацыі, састаўленай у студзені 1945 г., Х. Чарняўскі запісаўся беларусам; таксама ж зрабіў і ў 1955 г., калі многія беларусы ў афіцыйных дакументах фальшывілі ад страху і запісваліся палякамі. Гэтая дакументацыя бясспрэчна паказвае, што Р. Высоцкі зрабіў памылку, называючы колішняга члена Грамады Хведара Чарняўскага „ўкраінскім дзеячам".


БІЛЕТ № 7275

па прафэсіі

які пражывае ў

гміны

павету

пошта

зьяўляецца сябрам Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады.

Старшыня

Сакратар

KWESTIONARIUSZ 3750

dla członków i wstępujących do PPR

Organizacja partyjna, do której wpłynął kwestionariusz Powiatowy Kom. P.P.R.

Bielski powiat, miasto Orla Województwo białostockie

1. Nazwisko Czerniawski imię Teodor imię ojca Platon
2. Pseudonimy
3. Płeć męska 4. Data urodzenia 1895 5. Narodowość białoruska
6. Język ojczysty białoruski
7. Miejsce urodzenia wieś Miklasze Gm. Orla pow. Bielsk P.
8. Kiedy wstąpił do PPR i jakie funkcje pełnił

Адносна другой асобы, пералічанай Р. Высоцкім па прозвішчы, дык на падставе ўспамінаў многіх камуністычных дзеячаў можна меркаваць, што Васіль Касьянюк са Шчытоў (не названа з якіх) не быў у Грамадзе, а толькі ў КПЗБ, выконваючы партыйныя абавязкі ў раённым і акруговым камітэтах гэтай партыі. Васіль Касьянюк загінуў у засценках гестапа ў Белавежы.

На заканчэнне трэба паставіць пытанне, ці супрацоўнікі ўкраінскага органа „Над Бугом і Нарвою" ведаюць аб чым пішуць? Навошта пускаюць хлусню і дзеля чыёй карысці?

**Славамір Іванюк**

# Як я вяртаўся на Радзіму

Маючы амаль 60 гадоў я разумею, што ўспаміны далёкага дзяцінства могуць быць у нейкай частцы недакладнымі, але галоўныя падзеі я памятаю добра.

Падчас вайны мы жылі ў Плоцку. „Мы" — гэта мае бацька і матуля, старэйшы брат і я. Па словах светлае памяці маці, недзе напрыканцы снежня 1944 года, перад самым наступам Чырвонай Арміі, да нас у двор прыехаў знаёмы шафёр на грузавіку, ды прапанаваў: „Хуценька грузіцеся, заўтра будзем у Гамбургу. Трэба ўцякаць ад бальшавікоў!" Вось у гэты момант мой бацька, які захаваў расейскае грамадзянства яшчэ ад часоў імперыі, вырашыў і свой лёс, і наш таксама.

Як вялікі патрыёт, беларус, ён вырашыў ехаць на ўсход, у сваю родную вёску Няневічы, што пад Брэстам.

Пасля вядомага пагаднення паміж уладамі ПНР і СССР нас, рэпатрыянтаў, скамплектавалі на цэльны эшалон, недзе 600 сем'яў, запакавалі ў таварныя вагоны, па 2—3 сям'і і павезлі. Толькі не туды, куды хацеў бацька, а пад Адэсу ў Бесарабію, у пакінутыя нямецкія паселішчы.

Там з „палякаў" сарганізавалі калгас і пачалася праца. Памятаю, што было там вельмі горача і цяжка, галодна. Карміліся адной мамалыгаю, ад таго часу я не магу нават глядзець на кукурузу. Добра яшчэ, што маці прывезла з сабою мех солі ды мех соды — дык мяняла ці не сталовымі лыжкамі на тое, што нам было патрэбна.

Падышла зіма, дажджы і пачалася малярыя, гарачка. Лячыць людзей не было чым, даставалі, калі ўдавалася, нейкі акрыхін ды то рэдка. Зноў выратавала мамуліна соль ды сода. Увесну ад нашага эшалона засталося жывымі палова.

Бацька вырашыў — гэтым разам сапраўды трэба ўцякаць. Паздымаў у калгасе колы з плугоў, зрабіў цыганскі воз, купіў у суседа цяжарную, як высветлілася пазней, кабылу і „вё!" на поўнач, у Брэст. Як мы даехалі — толькі адзін Гасподзь ведае. Мы, двое хлапчукоў з мамаю яшчэ час ад часу сядзелі ў возе, а бацька ўсю дарогу прайшоў пешшу. Памятаю, што нас двойчы рабавалі на дарозе — адзін раз пад Праскуравам, другі — ужо недалёка Брэста. Карацей кажучы, вандроўка расцягнулася на два месяцы і ў Няневічы мы трапілі недзе ўвосені 1946 года.

Наступнаю вясною мой бацька, неблагі спецыяліст-электрык уладкаваўся на працу інжынерам на Брэсцкую электрастанцыю, якую ён жа і будаваў перад вайною. Усё было б добра, але аднойчы перад чарговай гадавінай кастрычніцкага перавароту бацькаў зменшчык, малады выпускнік інстытута зрабіў аварыю. Горад на два дні застаўся без электрычнасці. Бацька з гэтае нагоды лаяўся страшэнна і ўголас крычаў: „Чаго там навучаюць гэтых лайдакоў у савецкіх інстытутах!" Праз некалькі месяцаў, у 1951 годзе ён быў засуджаны на 10 гадоў, ды 5 гадоў пазбаўлення правоў за „антысавецкую прапаганду". Прайшоў ён у лагерах Беламорканал, Сібір, Башкірыю. Карацей, актыўна ўдзельнічаў у „будоўлях камунізму". Памёр ён нерэабілітаваны ў 1986 годзе. Яго рэабілітацыі я дабіваўся некалькі гадоў і атрымаў адпаведную паперу толькі ў 1993 годзе.

Казалася б, канец трагедыі, што тут яшчэ зробіш? Але мяне непакоіць цяпер тое, што аднаўляюцца на Беларусі старыя бальшавіцкія лозунгі дый палітыка вяртаецца паступова на паўстагоддзя назад. І зноў уцякаюць беларусы, цяпер ужо са сваёй Радзімы. Толькі сёння яны маладзейшыя і, відаць, разумнейшыя: бягуць ажно за Акіян, у Злучаныя Штаты, Вось і мае сыны сабраліся, адзін ужо там, дый малодшы рыхтуецца.

А я, падстарэлы ўжо ды хворы, застаюся на Радзіме і думаю сабе: ці не прыйдзецца маім сынам гадоў праз дваццаць дабівацца чарговай, гэтым разам — маёй рэабілітацыі, бо ніяк я сябе не адчуваю сапраўдным Грамадзянінам тае паўночна-карэйскай Кубы, што ўладкоўваецца зараз пад кіраўніцтвам „усенароднa абранага" на месцы маёй роднае Беларусі.

**Андрэй Яўтуховіч**

## Фотавыстаўка У. Завадскага

У Доме культуры ў Гайнаўцы прэзентуецца цікавая фотавыстаўка Уладзіслава Завадскага. На шматлікіх фотаздымках віднеюцца маляўнічыя краявіды Гайнаўшчыны ды помнікі беларускай матэрыяльнай культуры. Варта адзначыць, што лепшыя здымкі таленавітага фотааматара публікавала на сваіх старонках „Ніва". Аўтара віншуем з удалай фотавыстаўкай! **(яц)**

## Агрэсіўны подых сучаснасці

*(працяг са стар. 1)*

ляецца расказ гайнаўлян пра адкрыццё новага клуба „disco-polo" на акраінах горада.

— Бойка ўспыхнула невядома за што, — успамінае Ася М., удзельніца гэтай жахлівай патанцоўкі.

Невялікая хеўра маладзёнаў палажыла дзвесце чалавек публікі покатам на зямлю. А калі нехта хацеў падняцца, даставаў бутэлькай у галаву. Многія апынуліся ў шпіталі, нават ахоўнікі парадку.

Не сакрэт, што ў кожным горадзе ідзе змаганне паміж дзельніцамі (кварталамі). Беспрацоўная моладзь, сфрустраваныя вучні або нефармальныя маладзёжныя аб'яднанні нават дзеля забавы шукаюць ворага. Хопіць пачытаць надпісы на гарадскіх мурах.

**Ганна Кандрацюк**

# Бежанства

**Расказ Пятра Салавея, народжанага ў 1906 г. у Рудні, запісаны 13 лютага 1996 г. у Бандарах.**

Было цяжкае становішча ў чатырнаццатым—пятнаццатым гадах. Вайна была. Гасудар ваяваў з Вільгельмам. У Вільгельма былі „Цэпеліны". А гасудар меў такія кошыкі. Надувалі помпаю і пускалі. Вяроўкі трымалі і ён ляцеў і глядзеў, дзе непрыяцель падыходзіць. Помню як сёння, што рускія салдаты прывязвалі да балона жаўнера і пускалі ў паветра. Каб хто адрэзаў, паляцеў бы і ўпаў бы. А ў немца „Цэпелін" быў. Помню як сёння, праз нашу вёску ляцеў. Старшыя беглі праз вёску, бо думалі, што тут сядзе. Гууу, як ляцеў, так і паляцеў.

Вільгельм нямецкі сільнейшы быў і гасудара абсілій. Сусед нас узяў, двух хлопцаў і матку, і пайшлі мы ў бежанства. Бацьку раней рускія ў абоз забралі.

Даехалі мы да Бярэзіны. Божа мой! Рускае войска, нямецкае войска. Піць хочацца. Як тая кавалерыя праскочыла, мама ўзяла кавалак шматкі і ў капытніку намачыла. Прынесла гэтай вады ў чарапочку і дала нам піць.



*У такія хаты вярталіся бежанцы.*

Татко ў Магілёве нас знайшоў. Прадаў каня. Пасадзілі нас у цягнік. Ад Магілёва кінулі нас у Бесарабію. Але там цыгане, месца няма, адтуль адразу ў Сімбірск, да Волгі.

Калі прыехалі да ракі Волгі, плакалі мы бежанцы, што рускія нас прывезлі тут, каб патапіць. Сілай прымушалі бежанцаў сядаць на параход. Прывезлі нас у мястэчка Балакова, паўкіламетра ад Волгі.

Там тыя рускія людзі добрыя, не забуду ніколі. Астатнім кавалкам хлеба дзяліліся. Жабраваў кавалка хлеба я, жабраваў, бо цяжкае жыццё было ў бежанстве. Давалі, і адзежу давалі, бо там маразы вельмі былі. Ідзеш: „Беженец! Да ка иди ка сюда. Да ты не кушал ещё". Бывала, зойдзеш: „Падайце міласціну". — „Ах, батенька! Да нечего дать. Погоди, погоди, ещё горбушка хлеба есть". Астатнім дзяліліся.

Добры людзі а добры. Калі б да нас столькі людзей прыехала ў Польшчу, то цікава, ці яны выжылі б. Паляк, беларус, ці то ён такі дурны, ці то надта разумны — абы я жыў, а вы як сабе хочаце.

У рэвалюцыю цяжкае жыццё было. Холад, голад перажывалі не толькі мы, бежанцы, але і тамашнія.

Калі семнаццаты год прыйшоў, то ўсе духоўныя кніжкі (у школе іх некалькі шафаў было) выкідалі, перад школу выносілі і палілі. Камуніст Бычкоў гэта рабіў, не забуду ніколі. „Дармаеды не должны быць. Мы разаб'ём церквы і касцёлы. Канюшні падзелаем". Ленін так сказаў. Так, помню.

А я адну, новую нам толькі далі ў трэцім класе, то і сягоння, хаця абшарпаную, але маю. „Божа цара храні", як то калісь спявалі. Але прыйшоў семнаццаты год, і Бог, і багі яго не спаслі.

Ленін і Пілсудскі разам у турме сядзелі. Добра помню, як у Расіі тыя людзі гаварылі. Пілсудскі пайшоў за буржуазію, а Ленін за бядотаю.

А хадзілі мы, школьнікі, дрэвы пілаваць гаспадзіну учыцелю. Рускія два хлопчыкі і нас бежанцаў чатырох. Зайшлі, здаецца ніхто не бачыў, папілавалі. Заходзім пасля ў школу, а Бычкоў крычыць: „Беженцы! Кто из вас пилил дрова этому собаке учителю?!" А Мішка, кацапам яго называлі: „Вот этот беженец и я. Мы ходили вдвоём". — „Ех, ты сукин сын учитель. Не мог ты сам попилovать? А ты что делаешь"? Забралі яго і потым ужо мы яго не бачылі. Многа людзей перабілі.

У Расіі, не пахвалюся, адну ступень пасля пачатковай скончыў. У дзевятым класе адзін год. Бацька і маці па-свойму і ў Расіі гаварылі, але мы школьнікі, як цяпер моладзь гаворыць па-польску, так мы па-руску.

Пражылі мы там сем гадоў. Пілсудскі напісаў Леніну: „Proszę oddać Polsce Białoruś". Наш татко быў якімсь там „навукоўцам", лепшым. Злапаў той тэлефанаграм і прынёс. Але мясцовыя людзі не пускалі: „Не едзь, Мацвей не едзь, дык там мінаў і бомбаў поўна". Так і было. Ооо, разумныя людзі там засталіся. Наш бацька меў пад сабой сто дваццаць чалавек. Зайшоў да нас мой хросны. Бацька кажа: „Кум, паедзем на радзіму". — „Чаго я — адказаў яму хросны — паеду". Дачка вучыцелька, сын старшы таксама вучыцелем ужо быў, і ён паедзе плуга таго каб дзеці цягнулі? Абнемаглі. Папоў — прозвішча такое — два параходы меў, гаворыць: „Мацвей, не едзь, хлопцы падрастуць, дык на параходах будуць ездзіць". Чаму не паслухалі. Прыехалі тут, дык холаду, бруду, ох зажылі.

З Рудні ў бежанстве, былі амаль усе. Былі параскіданыя па цэлай Расіі.

У Рудні дзве сям'і толькі засталіся. У лесе з коньмі хаваліся, але немцы іх занялі.

Немцы ў нашай Рудні жалеза капалі. За сем лет, як мы былі ў Расіі, дык вялікі кавалак выкапалі. З нараўскай станцыі чыгунка да нашай вёскі пракожана была. Кіраўнік гэтай капальні то з нашай вёскі быў, ён не выязджаў у Расію. Працавалі палонныя.

На гэты бок рэчкі Луплянкі вёска стаяла, на той бок была спалена. Спаліў аднавясковец, праваслаўны, бо кепска жыў з людзьмі.

У нашай асадзе не было палякаў. Называлася Асада. І цяпер старшыя людзі пытаюцца: „З якой Асады. На гэты бок мосту, ці на той". Рудню дык за санацыі Асадай назвалі.

Запісаў **Алег Латышонак**

**Успаміны Веры Канончук, народжанай 6 сакавіка 1907 года ў Трасцянцы, запісаныя 6 сакавіка 1996 года там жа.**

У бежанства выехалі мы ў 1915 годзе, якраз перад Спленнем. Ехалі фурманкамі, жалезнякамі з драбінамі аж да Баранавіч. Там мы сказалі, што хочам ехаць у Перм, бо там нашага дзеда брат служыў жандарам. То нас пасадзілі на поезд і заехалі аж у Перм. А там холадна, недалёка ж Урал і Сібір. Як заехалі на станцыю, то па нас прыехалі і завезлі ў баракі, такія дамы, у якіх было многа такіх як мы бежанцаў. У адной *комнаце* жыло нас тры сям'і — і варылі там мы, і спалі. Спалі на *палатках* — такіх многаярусных ложках. А за сцяною, у наступнай *комнаце*, жылі наступныя сем'і. Вельмі добрыя людзі там былі, вельмі добра нас прымалі, прыносілі нам есці. Шкадавалі нас, што мы бежанцы — такія нешчаслівыя людзі. А тата майго там не было, тата быў на вайне, у палоне ў аўстрыйцаў. Праз тры гады іхняга знаходжання ў палоне, не атрымалі мы ад іх ніякай вестачкі. Жыла я з мамай, бабуляй і дзедам. Тата вярнуўся да нас, калі ўцёк з палону, пад канец нашага там прабывання. Я пайшла ў школу, а мама стала на работу. Дзед з бабай на працу не хадзілі. Недастатку не цярпелі, бо і дзяржава давала, і людзі давалі, прыносілі. А я, і яшчэ некалькі, не то што ад якога голаду, але от так сабе, хадзілі ў казармы, як салдатам абед давалі, і прасілі: дай дзядзенька камочак кашкі. А тая каша грэцкая, з алівай са сланечніка. Бо там сланечнікаў то цэлыя плантацыі былі, таксама агуркоў. А яблыкі то толькі маленькія, дзікія,раслі — такі клімат. Калі напрыклад зімою мароз даходзіў да –40°С, то дзецям была радасць — у школу не трэба было ісці. Вопратка, што забралі з сабою, слаба пры тым марозе грэла і прыходзілася яшчэ дакупляць шубы. Снегу то там былі вялікія заносы, а мароз быў сухі. Але як быў мароз, то была зіма, а як прыгрэла сонейка, то праз тыдзень снег сходзіў, бурліліся ручайкі і ўжо было цяпло. Не так, як у нас: у нас сыры клімат, а там сухі. Ну, добра нам там было, але толькі да рэвалюцыі. А як стала рэвалюцыя, то і стаў голад. Былі там гаспадары заможныя, бо зямля там была добрая, *хлебародная*, там амаль адна пшаніца расла. Як стала рэвалюцыя, павыпускалі з турмаў і пачалі кулакоў раскулачваць — бяруць збожжа і вязуць у раку высыпаюць. А як стаў голад, то давалі нам сухія абаранкі. Паявіліся *калейкі*. Гаварылі: *Старый режим, так на печке лежим, а новый режим, так за тыном стоим*. Людзі змяніліся, бяднейшыя пачалі грабіць багацейшых. Пачалі бацюшкаў мардаваць; хацелі епіскапа ўзяць, але людзі не далі, то прыехалі ўначы, забралі і ўтапілі ў Каме. Адносіны да нас, бежанцаў, не пагоршыліся, аднак рашылі мы вяртацца. Вярталіся мы на радзіму ў 1918 годзе. Тата то не хацеў, але бабуля настойвала каб вяртацца. Мы, як бежанцы, атрымалі права на бясплатны праезд на радзіму. У Маскве прастаялі два тыдні, бо ўжо многа вярталася і трэба было чакаць поезда. Поездам прыехалі да Бельска, чым з Бельска — не помню. У Трасцянку ўжо вярнуліся з бежанства чатыры сям'і — тыя, што былі бліжэй, у Мінску. Вярнуліся мы так, як і выязджалі — пад Спленне. Усё ў Даліне, па Бялоцкую дарогу, было спалена, толькі дзве там хаты асталіся, а ўсюды далей адзін толькі *бур'ян* рос. Не было чаго есці. Хадзілі, калі ўдавалася, на перакопкі да тых, што асталіся, а калі не ўдавалася, то ішлі жабраваць. Асталіся Анцуты і, здаецца, Жыўкова і Іванкі, Нарва. То і я ўжо хадзіла жабраваць з адною такою; зойдзем да Анцут, то па дзве *картоплі* давалі. А адна дала кусочак хлеба і я яго вельмі хацела занесці маме, але не дала рады — пакуль дайшла, сама з'ела, так смакаваў; кусаеш па кусочку і глядзіш — ужо няма чаго несці маме. А мама то хадзіла ў *Польшчу* жабраваць, на два тыдні выходзіла. То ўжо тады тата па маму выязджалі, але што яны там прывязуць — трошку картофляў і жмені дзве-тры круп ячных. А як я хадзіла да Сакоў, то нажабравала торбачку бульбы і яшчэ адна дала круп ячных. То мама наварылі *картопэль*, з лупінамі, і такого *кулешыку*, круп усыпалі. А я ем гэта і, такая шчаслівая, кажу: „Госпоці, дай, коб дождаті, коб куолькі хоч было сіэтых картопэль і сіэтого кулешыку поіэсці". А пра мяса то ніхто і не думаў. Так было першы год, бо пасля то ўжо ўдалося сваё засеяць і пасадзіць. І навесну парася ці двое купілі, і курачкі. Зямлю абраблялі тым, што пакінулі, бо плугоў ці бараноў не забіралі з сабою. Вопратку і палатно, як выязджалі, пазакопвалі ў ямах, але, пакуль вярнуліся з бежанства, нехта раскапаў і разграбіў. А сям'я, у якую я пазней выйшла замуж, пакінула мураванку на Даліне, то яе людзі разабралі. Дзве сям'і, што асталіся ў вёсцы, пазносілі да сябе ўсе іконы з апушчаных хатаў, цэлую гурбу ў хлеў назносілі; у Расію іконаў не забіралі. То мы як вярнуліся, узялі сабе, значыць мае бацькі, ікону *Нікалая Чудатворца*; бралі людзі тыя іконы, сваю ці не сваю. Гэту ікону, год ці два таму, хацелі такія „апекуны", што абяцалі рэнту падбавіць — зладзеі значыць — выцягнуць ад мяне, але сусед з вуліцы крыху наглядаў і яны пабаяліся. І бацюшкі былі павыязджалі ў бежанства, але вярнуліся; помню, наш бацюшка Багдановіч вярнуўся пасля нас. Калі мы вярнуліся, то яшчэ тут немец быў — трэба яшчэ было хутка на вуліцу выбягаць, на работу, каб ад немца бізуном не дастаць. А пасля, як настала Польшча, то пачалі людзі адбудоўваць, бо на Даліне то толькі каміны тырчэлі і зелле расло.



*Пасля выезду ацалелі толькі каменныя крыжы.*

У Станку, там дзе бацюшка жыў, пасялілі польскіх асаднікаў. Была там баня і яны ў той бані жылі — дзве сям'і, а трэці, Самсаль, сваю хату паставіў. Самсаль тут *умэр* і пасля тыя выехалі.

Запісаў **Аляксандр Вярбіцкі**

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Сустрэча з V „а”


*Клас V „а” і настаўніца Валянціна Бабулевіч.*

Упершыню „Зорка” наведала клас V „а” бельскай „тройкі”. А як вядома, першая сустрэча заўсёды нялёгкая. Добра, што былі са мною сябры з V „е” — вядомага хіба ўсім чытачам „Зоркі”. Мы паказалі сваім аднагодкам рэпетыцыі п'есы „Прывітанне вясны”. Гэтую п'есу вывучалі ўдзельнікі III Сустрэч „Зоркі”, сярод якіх былі вучні V „е”. А зараз увесь клас узяўся за гэтую п'есу. І, вядома, калі прыступілі „Журавінкі”, твор стаў безумоўна намнога цікавейшы. У п'есе якраз найважнейшыя песні. Нашы продкі верылі, што вяснянкі, агулькі (так называлі вясеннія песні) дапамагаюць выклікаць Вясну. Бельскія акцёры пакарысталіся арыгінальным фальклорам. У п'есе выкарыстоўваюцца песні-вяснянкі з наваколля Бельска-Падляшскага і палескага Пінска. Гэтыя песні адшукаў у старых зборніках Дарак Фёнік, вядомы энтузіяст нашай спадчыны, сябра старонкі „Зорка”. Ён таксама, паводле старажытнай мелодыі, развучыў з пяцікласнікамі вяснянкі. А Валянціна Бабулевіч, якая ў V „е” і V „а” выкладае родную мову, занялася ўсім астатнім. Яна падабрала для п'есы дыялогі, сцэнічнае афармленне, аформіла выступленні. Варта адзначыць, што пяцікласнікі запрэзентуюць сваю п'есу ўдзельнікам канферэнцый фізікаў, якія адбываюцца ў „тройцы”.


*Яны прадстаўлялі „Прывітанне вясны”.*

Здаецца, п'еса спадабалася дзецям з V „а”.

— Можа і іх зацікавіць беларускай мовай, — клапацілася спадарыня Бабулевіч. Яна ад нядаўна працуе з гэтым класам.

Нямногія таксама тут цікавяцца „Зоркай”. Але ў гэтым класе ёсць незвычайныя вучні. Жанэта Роля — таленавітая дэкламатарка, паэтка і наша карэспандэнтка, якраз з V „а”.

— Кася Лукашук і Эвеліна Тамашэвіч , — гаворыць настаўніца, — таксама праяўляюць энтузіязм да беларускай мовы. У V „а” 26 вучняў. Хацелася б, каб і тут, як у V „е”, усе дзеці цікавіліся беларускай мовай і зноў наладзілі сустрэчу з „Зоркай”.

**Ганна КАНДРАЦЮК**
**Фота аўтара**

## Польска-беларуская крыжаванка № 13

| | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Włóczęga, łajza | Wieprz | Sprzedawca, kramarz | | Złoto | ...napewno, ...ale... | Jar / Leśniczy | | |
| | Dworzec | | | | | | | Kino | Filia, oddział |
| | | | Rola / Rak | | | | | | |
| | Przylaszczki | | | | | | | | |
| | Rama | | | | | Nil (rzeka) | | | |
| | | | | | | | | | |
| | Hałas, gruchot | | Rozpad, podział | | | | | | |

Запоўніце клеткі беларускімі словамі.

Адказы (з наклееным кантрольным талонам) дашліце на працягу трох тыдняў у „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку н-р 9: „Зімовыя канікулы”.

Узнагароды — фламастэры — выйгралі: **Эдыта Лаўрыновіч**, **Ася Германовіч** і **Ася Гацута** са Старога Беразова, **Юстына Кісялеўская** з Нараўкі, **Андрэй Крук** з Катоўкі, **Галена Сідэвіч** з Бельска-Падляшскага, **Адрыян Купрыяновіч** з Кленік і **Данель Пракапюк** з Чыжыкаў.

## Аб'явы

Мяняецца спосаб даручання ўзнагарод „Зоркі”. Цяпер можна іх адбіраць непасрэдна ў рэдакцыі, або чакаць на іх у сваёй школе, дзе давязём іх на працягу двух месяцаў.

Гэтая змена вынікае з клапатлівых паслуг пошты. У Нарве, на той прыклад, часта гінуць узнагароды, а ў Новым Беразове трэба за паслугу пісьманосца нямала плаціць. Таму ўсіх, хто меў такога роду непрыемнасці, перапрашаем (хаця тут, думаю, павінны перапрасіць дзяцей працаўнікі пошты!).

* * *

Усе ўдзельнікі III Сустрэч „Зоркі” могуць заказаць свае здымкі. Просім пісаць або тэлефанаваць у рэдакцыю.

Кошт аднаго здымка — 1 злоты.

## Забабоны Дубіцкай гміны

**Частка III**

1. Садзячы капусту, клалі вялікі камень, каб капуста была цвёрдая і вялікая.
2. Калі раніцай спявае певень і рэха пойдзе на ўсход, то будзе пагода, а калі на захад — будзе дождж.
3. Калі курка заглядае ў акно, нядобрая вестка.
4. Калі ластаўкі лётаюць нізка над зямлёй, то будзе дождж.
5. Дым коціцца па зямлі, на змену пагоды.
6. Выдаіўшы карову, малако абавязкова трэба накрыць, бо інакш карова будзе даваць мала малака.
7. Нельга лазіць цераз акно, бо не вырасцеш.
8. Як вугольчыкі выскакваюць з печы, то ў хату прыйдзе нядобры чалавек.
9. Калі заходзіць сонца і яно чырвонае, то будзе мароз.
10. Нельга сядзець на пянньку, бо не палюбяць цябе дзяўчыны.
11. Нага баліць на змену пагоды.
12. Нельга класці хлеб сподам дагары, бо будзе сварка ў хаце.
13. Калі павук спускаецца па павуцінцы, значыць будуць госці.
14. Падае нож або відэлец, хтосьці спяшаецца.
15. Першая развінецца бяроза, будзе сухое лета.
16. Манашку бачыць — няшчасце.
17. Калі кукуе зязюля і маеш пры сабе грошы, то цэлы год будзеш багаты.
18. Нельга стаяць на смецяцях, калі хтосьці замятае, бо ў будучыні на вяселле ніхто не папросіць за старшую дружку.
19. Паб'ецца люстэрка — няшчасце.
20. Калісьці, калі людзі ішлі ў поле сеяць лён, зерне неслі на спіне, верачы, што лён вырасце высокі і прынясе вялікі плён.
21. Калі хтосьці часта лічыць грошы, будзе лысы.
22. Калі пяройдуць дарогу з пустым вядром, сустрэне нас няўдача.
23. Каб ніхто нас не сурочыў, трэба кашулю налажыць навыварат.
24. Госць пераступіць парог левай нагой — няшчасце.
25. У тым дні, калі гаспадар штосьці пасеяў у полі, нельга нічога нікому пазычаць, у іншым выпадку яго чакае неўраджай.
26. Калі на бярозе да позняй восені вісіць лісце, то будучае лета будзе сухое.
27. Вые сабака — хтосьці памрэ.
28. Калі сабака закопвае ежу, будзе голад.
29. У пятніцу нельга мыць бялізну, гэта пагражае паводкай.
30. У панядзелак не трэба пачынаць новых работ.
31. Нельга разбіваць гнёзды ластавак, бо будзеш рабым.
32. Калі на Каляду першая ў хату ўвойдзе жанчына, то жывёла будзе полу жаночага, мужчына — то мужчынскага.
33. Нельга нічога пакідаць у бальніцы, бо хутка туды вернешся.
34. Чорны кот перабягае дарогу — няшчасце.
35. Пякуць шчокі, хтосьці абгаворвае.
36. Сніцца зуб або мяса, будзе хвароба.
37. Свярбіць правая рука, будзеш вітацца, левая — будзеш лічыць грошы.
38. Свярбіць правая нага, чуе дарогу.
39. Хто зачэпіцца нагой выходзячы з хаты, то хутка туды вернецца.
40. Кот мыецца правай лапай, госці будуць.
41. Нельга есці пры адкрытай кнізе, бо можна заесці памяць.

Талон „Зоркі” № 13
31.03.1996

## III Сустрэчы „Зоркі”

# Што чуваць на плаціне?

Калі прыехаць у Бандары, у вочы кідаецца плаціна паміж Семяноўскім вадасховішчам і ракой Нарвай. Толькі той, хто пабачыць яе ў сярэдзіне, уяўляе яе сапраўдную веліч. Чалавек у ёй можа адчуваць сябе бяспечна. 14 лютага, у халодны, золкі дзень мы мелі нагоду пабачыць плаціну і яе сэрца — усё абсталяванне. Старшы спецыяліст па гідратэхніцы, інжынер Аляксандр Кардаш паказаў нам розныя прылады для мерання ўзроўню вады, катлы. Бачылі, як падае вада, быццам у вадаспадзе. Уражвалі вялізныя ледзяшы. Падумаць, мы стаялі 10 метраў пад вадой! Гэтага дня на плаціну прыехала вялізная машына. Прывезла яна турбіны для будовы электрастанцыі. Спускаліся яны пад'ёмным кранам уніз, дзе мы стаялі.

Інжынер Кардаш расказаў нам пра вадасховішча. Будавалася яно ў 1977—1988 гадах. Цяпер яно шырокае на 900 метраў, доўгае на 4 кіламетры. Увесь год ловіцца там рыбы: ліня, карася, акуня, шчупака. Летам прыязджаюць турысты. Крыўдна толькі, што пад вадой апынуліся вёскі Боўтрыкі, Рудня, Лука, Буды.

**Яся СЕГЕНЬ**
**Хрыстафор ЯКАНЮК**



*Публіцыстычная група на плаціне разам з інжынерам Аляксандрам Кардашом.*
Фота Лены ГЛАГОЎСКАЙ

# Дзённік Ірэны

**Частка III**
**15.02.1996 г.**

Нашы апекуны зрабілі нам цікавую неспадзяванку — экскурсію ў Ялоўку, якая калісьці была мястэчкам. Мы агледалі спярша касцёл, у якім даўно служыў ксёндз беларус. Таксама там ахрысцілі Кастуся Каліноўскага. Месца вельмі нам падабалася. Адтуль паехалі ва Уздзвіжанскую царкву і там спявалі ў хоры. Я адчувала сябе тады кімсьці сапраўды важным. Айцец Яўген Канаховіч запрасіў нас на плябанію, дзе нас пачаставаў і нагрэў. Было вельмі прыемна. Наступны прыпынак мелі ў Мастаўлянах, дзе нарадзіўся і правёў маладосць Кастусь Каліноўскі. Вельмі спадабалася гэтае месца. Было вельмі холадна і непрыемна. Тыя, якія хацелі, пайшлі ў Юшкаў Груд у царкву, дзе служыць айцец Славамір Тафілюк. Вельмі прыгожа і ясна ў царкве таму, што там 70 вакон. На купале ў сярэдзіне храма відаць зорачкі, быццам на небе. Цікавае тое, што гэтая царква драўляная. Вельмі прыгожая. Пасля абеду Дарко Фёнік згодна з традыцыяй свята Грамніц падпальваў нам валасы. Усім звычай спадабаўся. На вечарыну запрасілі мы журналістку „Нівы” Міру Лукшу, якая расказала нам аб сваёй працы. Нарэшце раздала кніжкі з аўтографамі. Пасля таго сяброўкі прыгатавалі розныя ігры і забавы. Усе смяяліся і цешыліся. Сёння ў мяне дзень нараджэння. Спявалі мне „Многая лета”. Адчувала я сябе кімсьці важным і дацэненым. Лена Глагоўская і Алег Латышонак далі прыгожы падарак — маляванку з вершам, які самі склалі, а таксама малыя салодкія ласункі. Ніхто ніколі спецыяльна мне не склаў верша. За тое дзякую ім ад усёй душы.

**16.02.1996 г.**

Сёння ўжо апошні дзень і вельмі сумна, што заўтра едзем дахаты. Цэлы дзень стараліся завяршыць тое, чаго яшчэ не зрабілі за час пабыту ў Бандарах. Пасля вячэры было апошняе спатканне ўсіх груп, дзе кожны штосьці прадстаўляў. Цяжка будзе расстацца з апекунамі, з якімі ў такім кароткім часе я пазнаёмілася і вельмі іх палюбіла. Паміж сабою правялі мы інтэрв'ю як сапраўдныя журналісты. Прыязджалі таксама журналісты з тэлебачання. Цяжка будзе расстацца з цэлай групай.

*(канец)*

## Мае „Сустрэчы”

Я хацела б падзяліцца з чытачамі „Зоркі” ўспамінамі з сустрэчы ў Бандарах. На зімовыя канікулы паехала я ў Бандары. Са мной было яшчэ трыццаць тры вучні з розных пачатковых школ на Беласточчыне. Экскурсію арганізавала рэдакцыя „Зоркі”. Каб на яе паехаць, трэба было актыўна супрацоўнічаць з „Зоркай”. У Бандары прыехалі мы ў першы дзень зімовых канікул. Усе мы там пазнаёміліся, падзяліліся на чатыры групы: публіцыстычную, літаратурную, тэатральную і мастацкую. Я была ў групе мастацкай. Нашым „настаўнікам” быў Лёнік Тарасэвіч. Мы рысавалі карыкатуры апекуноў, сцэнкі з жыцця людзей, партрэты, а на канец нават малявалі шпрэмі. Часта таксама хадзілі мы на экскурсіі па наваколлі.

Вечарамі ўсе групы спявалі разам прыгожыя беларускія песні, сустракаліся з паэтамі і іншымі цікавымі людзьмі. Часам хадзілі мы на дыскатэкі. Ніхто не наракаў на недахоп заняткаў. Адным словам было вельмі цікава.

Усе мы моцна пасябравалі і на канец было вельмі цяжка развітацца. Ад'язджаючы, амаль усе плакалі.

Цяпер трэба было зноў вярнуцца ў школу. Аднак канікулы ў Бандарах надоўга застануцца ў маім сэрцы і памяці. Я мару, каб стаць пастаянным удзельнікам такіх сустрэч.

**Мажэна ЖМЕНЬКА,**
**кл. V „э” бельскай „тройкі”**

# Інтэрв'ю з удзельнікамі III Сустрэч „Зоркі”

*— Адкуль ідэя такіх сустрэч і іх мэта?*

**Ганна Кандрацюк** (рэдактар „Зоркі”): — Ідэю творчых сустрэч прыдумалі мы з Лёнікам Тарасэвічам. Першая наша сустрэча здзейснілася напрыканцы жніўня 1995 г. У Меляшках мы размалёўвалі крыж. Праз месяц сустрэліся зноў у суседняй вёсцы, Калёніі Меляшкі, дзе пакінулі таксама каляровы крыж. Хочам, каб такія таленавітыя дзеці і энтузіясты беларускай мовы як вы сустракаліся і разам выпрацоўвалі каштоўнасці, каб вы былі ўзорам і прыкладам для аднагодкаў.

*— Чаму ты займалася ў тэатральнай групе?*

**Аня Кіцаль** (VIII кл. ПШ у Новым Корніне): — Люблю выступаць.

*— Што робіце ў групе?*

**Аня Кіцаль:** — Падрыхтоўвалі п'есу-пантаміму паводле легенды „Мацейкава гара” і пра масленіцу. Спявалі песні з Лукі, вяснянкі.

*— Чаму ты займалася ў літаратурнай групе?*

**Аня Садоўская** (VII кл. ПШ у Нарве): — Вельмі люблю пісаць вершы. У літаратурнай групе я мела нагоду паслухаць пра тое, як пісаць паэтычныя творы. Мы ходзім на сустрэчы з паэтамі, размаўляем пра літаратуру, свет і жыццё чалавека. Мне вельмі падабаецца наваколле Семяноўскага вадасховішча і прырода.

*— Якіх апекуноў вы найбольш палюбілі?*

**Аня Садоўская:** — Усе апекуны абдарылі нас дабрынёй, шчырасцю і сардэчнасцю.

**Лукаш Жукоўскі і Паўлік Кубаеўскі** (VI кл. ПШ у Орлі): — Нашага апекуна, зразумела, Лёніка Тарасэвіча. Вельмі файна з ім малявалася.

**Аня Кіцаль:** — Я люблю ўсіх апекуноў, бо вельмі добра вядуць заняткі.

*— Якія ўражанні ад сустрэч з намі?*

**Ганна Кандрацюк:** — Я вельмі цешуся, што зноў з вамі сустрэлася. Думаю, што і „Зорка” будзе цікавейшая.

**Лёнік Тарасэвіч** (мастак): — Ёсць весела. Думаю, што будзем сустракацца часцей.

**Дарафей Фёнік** (студэнт): — Я вас не ведаў. За пяць дзён я магу сказаць пра вас многа.

**Тамаш Саевіч** (ліцэіст): — Для мяне гэта вялікае дасведчанне працаваць з вамі. Цешуся, што магу працаваць з тэатральнай групай, займаюся гэтым у маёй школе. Думаю, што многія дзеці, вярнуўшыся, захочуць зрабіць такі тэатр у сваёй школе.

**Паўлік Кубаеўскі:** — На мяне зрабіла вялікае ўражанне сустрэча з Лёнікам. Заняткі ў пластычнай групе былі асаблівыя, маляванне фламастэрамі і шпрэам.

**Агнешка Качаноўская** (VI кл. ПШ у Чыжах): — Мне падабалася ўсё. Найбольш люблю рэпетыцыі тэатральнай групы і маляванне. Мне вельмі падабалася экскурсія ў Ялоўку і Мастаўляны. Пазнаёмілася з новымі сябрамі: Аняй Саеўскай, Каміляй Лабузінскай, Міхасём Дзмітруком, Аняй Хадакоўскай, Паўлам Стахвюком і іншымі.

**Ілёна Бараўская, Кася Куцькоўская, Юстына Харкевіч** (вучаніцы з ПШ у Вераб'ях): — Chociaż nie umiemy mówić po białorusku, spotkania nam się bardzo podobały, szczególnie zajęcia w grupach i nowi znajomi. Będziemy do nich pisać listy. Do Agnieszki i do wszystkich. Poznaliśmy przyjaciół z Czyż, Bielska Podlaskiego, Narwi. Gdyby ktoś nas zaprosił na podobne spotkania, na pewno byśmy znów przyjechały.

**Міхась Дзмітрук** (VIII кл. ПШ у Курашаве): — Я пазнаёміўся з сябрамі, навучыўся пісаць вершы. Пазнаёміўся з цікавымі пісьменнікамі і людзьмі. Пазнаёміўся таксама з сяброўкамі, але не закахаўся.

**Лукаш Жукоўскі:** — Мне падабаліся заняткі з Лёнікам, асабліва як малявалі простыні і кашульку шпрэам. Пазнаёміўся з хлопцамі і дзяўчатамі.

*— З якой сяброўкай ты пазнаёміўся?*

**Лукаш Жукоўскі:** — Не скажу.

*— Чаму вы згадзіліся тут прыехаць і працаваць з намі?*

**Ганна Кандрацюк:** — Таму, што вы раней самі напісалі ў „Зорку”.

**Лёнік Тарасэвіч:** — Праца з дзецьмі заўсёды цікавая. І мастак вучыцца, і дзеці таксама.

**Дарафей Фёнік:** — Я не магу жыць без працы з дзецьмі.

**Тамаш Саевіч:** — Згадзіўся таму, што я адчуваю сябе беларусам, хачу сустракацца са старэйшымі, вопытнымі сябрамі.

*— Ці ты тут сябар наш ці апякун?*

— Напалам: і сябар, і апякун. Больш разумею вас як старэйшых сяброў.

*— Ці будуць такія сустрэчы ў будучыні?*

**Ганна Кандрацюк:** — Думаю, што так. Прынамсі два разы ў год. Ну і, зразумела, сустрэчы ў нашых школах.

**Размаўлялі:**

— з Ганнай Кандрацюк, Агнешкай Качаноўскай, дзяўчатамі з Вераб'ёў — **Міхась Стэпанюк,**

— з Лёнікам Тарасэвічам і Лукашом Жукоўскім — **Андрэй Таранта,**

— з Тамашам Саевічам і Паўлікам Кубаеўскім — **Хрыстафор Яканюк,**

— з Аняй Садоўскай, Аняй Кіцаль і Дарафеем Фёнікам — **Ірэна Кулік.**

# Як Плева з „Нівай” змагаўся

Гарачае было пасяджэнне Сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей у чацвер 14 сакавіка г.г. І не толькі з увагі на тое, што разглядаліся праблемы фінансавання дзейнасці меншасных арганізацый і пытанні школьніцтва на нацыянальных мовах. Але па чарзе.

Перад Камісіяй з'явіліся прадстаўнікі ведамстваў адказных за фінансаванне згаданых пытанняў — віцэ-міністр культуры і мастацтва Міхал Ягела ды дырэктар Дэпартамента па фінансавых справах у Міністрэстве нацыянальнай адукацыі дырэктар Дамброўскі. Міністр Ягела звярнуў увагу на вельмі цікавую з аднаго боку, але вельмі трывожную з'яву. Ягонае ведамства штораз большую частку свайго бюджэту прызначае на фінансаванне газет і выданняў. У сувязі з гэтым, штораз менш грошай ідзе на іншыя мерапрыемствы. Калі б выдавецкі рух нацыянальных меншасцей яшчэ павялічыўся, паралельна з коштамі друку, магчыма Міністэрства культуры змагло б фінансаваць толькі і выключна газеты. Тут варта згадаць, што ў выдавецкім плане найбольш актыўнай сярод меншасцей у Польшчы з'яўляецца беларуская меншасць — выходзяць „Ніва” і „Часопіс”, ад нядаўна „Гістарычныя сшыткі”, свае публікацыі выдае БАС, Літаб'яднанне „Белавежа”, БГКТ. Таму і сёлетні бюджэт Міністэрства культуры прызначаны для беларсаў павялічыўся на 47 працэнтаў у параўнанні з мінулым годам. Прычынай такога павышэння, а трэба падкрэсліць, што апошнія меншасці атрымалі прыблізна на 25% большыя датацыі, з'яўляецца і саракагоддзе БГКТ, бо ж вядома, сказаў міністр Ягела, без грошай святкаваць нельга.

І менавіта ў гэтым месцы, пры фінансаванні часопісаў і выданняў нацыянальных меншасцей, пачалося. Выступіў чалавек, які ў Камісіі лічыцца прадстаўніком беларускай нацыянальнай меншасці — пасол ад СЛД Сяргей Плева. Запатрабаваў ён, каб бюджэт „Нівы” Камісія пакінула на ўзроўні 1995 года, а розніцу — 38 200 злотаў — перадала дзецям і моладзі, „у якіх наша будучыня”. Прычым пасол Плева не сказаў, што канкрэтна мае ён на ўвазе. Трэба тут звярнуць увагу на тое, што бюджэт „Нівы”, у параўнанні з мінулым годам, быў павышаны толькі на ўзровень інфляцыі, значыць прыблізна на 21,3 працэнта. Інакш кажучы, без гэтай бюджэтнай карэктуры „Ніва” засталася б без сродкаў на жыццё. Чым абгрунтаваў пасол сваё патрабаванне? А тым, што рэдакцыйны калектыў штотыднёвіка „нерэфармавальны”, што газета не выпаўняе сваёй функцыі не пішучы пра ўсе элементы беларускага жыцця ў Польшчы, што надта мала прысвячае яна месца таму, што робіць і чым займаецца БГКТ, а тым самым шкодзіць яна беларускаму асяроддзю, урэшце, што журналісты „Нівы” мусяць зразумець, што гэта польская дзяржава дае ім грошы і „яны павінны зрабіць з гэтага высновы”. Крыху нечакана гучаць такія словы ў вуснах чалавека, які ў заканадаўчым органе польскай дзяржавы мае прадстаўляць інтарэсы беларускай нацыі, а прынамсі ўсім заяўляе, што так яно ёсць.

Прапанова абмежавання датацыі сустрэлася з супрацівам, як прадстаўніка Міністэрства культуры, так і старшыні Камісіі Ежы Штэлігі. Міністр Ягела падкрэсліў, што грошы прызнаныя „Ніве” гэта неабходны для існавання газеты мінімум, без якога штотыднёвік быў бы прымушаны пераўтварыцца ў двухтыднёвік або выходзіць яшчэ радзей. Ну, хіба што хочам задушыць рэдакцыю, — сказаў міністр. Дарэчы, спадар Ягела згадзіўся з некаторымі закідамі, якія ставіцца ў адрас „Нівы” — яна ж сапраўды поўнасцю выжывае за дзяржаўныя сродкі і таму павінна прадстаўляць тое, дзеля чаго створана — усе опцыі і інтарэсы беларускага грамадства. Тым часам кіраўніцтва газеты не ставіцца станоўча да ўлад і дзейнняў БГКТ, найбольшай і найбольш, здаецца, актыўнай беларускай арганізацыі. Магчыма, гэта някепская канцэпцыя, сказаў міністр Ягела, каб „Ніва” вярнулася да БГКТ, але такое рашэнне мусіць прыняць само асяроддзе, але міністэрства не будзе кіраваць уручную. У гэтым месцы варта ўспомніць пра нейкага тыпу скаргу з боку Міністрэрства культуры і мастацтва — меншасці не могуць дагаварыцца ў сваім асяроддзі, паміж сабою, пачынаюцца спрэчкі, а часам і канфлікты, і ўсе бягуць у міністэрства, каб тое стала арбітрам. А ўлады не хочуць умешвацца ў тыя справы, каб іх у сваю чаргу не абвінавацілі ў тым, што кіруюць дзеяннямі меншасных арганізацый альбо ўводзяць цэнзуру.

Пра цэнзуру гаварыў і старшыня Камісіі Ежы Штэліга, калі ад пасла Плевы пачуліся словы, што паколькі ніхто або мала чытае „Ніву”, то яго, падаткаплацельшчыка, грошы выкідаюцца ў гразь і ён з гэтым не згаджаецца. „Тое, на што даю грошы, мае служыць усёй беларускай грамадскасці”, — сказаў Сяргей Плева. Тут старшыня Штэліга прывёў пасла да парадку: „Вядома, што людзі „Ніву” чытаюць; паводле нашых дадзеных, пастаянных чытачоў 1700, а гэта ў маштабе беларускай меншасці нямала. А апрача таго, якоекалечы ўмешванне з нашага боку ў канцэпцыю газеты будзе проста цэнзурай”. Спадар Штэліга заявіў аднагасова, што ў планах працы Камісіі нацыянальных меншасцей прадугледжана сустрэча з галоўнымі рэдактарамі меншасных часопісаў, у якой будзе абмяркоўвацца стаўленне газеты да сваёй грамадскасці ды і да польскіх улад (паслы прывялі прыклад галоўнай рэдактар літоўскага часопіса „Аўшра”, якая ад самога пачатку свайго рэдактарства атакуе польскія ўрады, нягледзячы на тое, ці яны правыя, ці левыя).

Хаця ўсе ўдзельнікі сустрэчы згодна сцвердзілі, што калі бюджэты для нацыянальных меншасцей ужо вызначаны і нельга іх памяняць, Сяргея Плеву не пераканалі. Паводле яго, розніца бюджэтаў „Нівы” на 1995 і 1996 гады — 38 200 зл — павінна перадацца дзецям і моладзі, якая, дарэчы, павінна таксама ўвайсці ў склад Праграмнай рады тыднёвіка „Ніва” і нешта ў ёй змяніць.

Магчыма, што пасля такой дозы адрэналіну нікога не ўзрушыць інфармацыя, што прадстаўнікі Міністэрства нацыянальнай адукацыі паказаліся перад Камісіяй як непадрыхтаваныя вучні. Найперш дырэктар Эканамічнага дэпартамента сп. Дамброўскі пабльтаў працэнты, гаворачы, што ў 1996 годзе ягонае ведамства прызначыла на інвестыцыі ў школьніцтве аж 10% свайго інвестыцыйнага бюджэту (1 млн 350 тыс. зл.) — „а тое, шаноўнае спадарства, хіба немалыя грошы”. А калі аказалася, што названая сума гэта не 10 але 1 (!) працэнт міністэрскага бюджэту, не знайшоў ужо аргументаў на закіды камісіі, што сума такая — гэта „смешная справа”. Чарговая начальнік Аддзела падручнікаў у Міністэрстве нацыянальнай адукацыі паведаміла пра выдавецкія планы — 9 падручнікаў для ўсіх меншасцей у 1996 годзе! Усе ахнулі. На дадатак аказалася, што тры з гэтай лічбы гэта падручнікі, якіх міністэрству не ўдалося выдаць у папярэднім годзе. Але, паводле слоў спадарыні начальнік, грошы запланаваныя ў мінулагоднім бюджэцне на гэтыя выданні не змарнаваліся. А спазненне з гэтымі трыма падручнікамі — віна выдаўцоў. Быццам не маюць яны сродкаў на друк. На пытанне старшыні Камісіі, ці гэта абазначае, што падручнікі тыя гатовыя да друку, і што хопіць даць грошы, каб яны ўжо надрукаваліся, адказ гучаў: „Ну, не, не маем яшчэ аўтараў...” На жаль, у выдавецкіх планах Міністэрства нацыянальнай адукацыі знаходзяцца і беларускія падручнікі для VII класа (сярод тых трох з 1995 года), да III класа і сшытак практыкаванняў для III класа.

Выснова з пасяджэнняў Сеймавай Камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей такая: меншасці атрымалі такія грошы, каб выжыць і, магчыма, заплаціць некаторыя даўгі. Пра развіццё ці нейкія інвестыцыі пакуль няма што марыць. А на дадатак некаторыя прадстаўнікі меншасцей замест старацца прыдбаць як найбольшыя для іх грошы, прапануюць нават тыя грошы забраць.

**М. С.**

Мікола Гайдук

# „Ніва” і беларускае школьніцтва



*Вучні Пачатковай школы ў Гаркавічах на Сакольшчыне са сваёй настаўніцай Антанінай Белюцы (канец пяцідзесятых гадоў).* Фота з Архіва

*(даклад на канферэнцыі з нагоды 40-годдзя „Нівы”)*

Карані „Нівы” цесна пераплецены з каранямі беларускага школьніцтва на Беласточчыне. Яшчэ ў 1944/45 гадах, калі на Беласточчыне працавала каля 100 беларускіх школ рознага ўзроўню і ў іх амаль усе прадметы выкладаліся на беларускай мове, за выключэннем адзінай польскай мовы, настаўнікі, грамадскія дзеячы на розных узроўнях ставілі неабходнасць выдаваць у Беластоку беларускамоўны часопіс, які б быў газетай для дарослых і дзяцей і дапаможнікам настаўнікам роднай мовы і вучням. На жаль, агульныя палітычныя абставіны і асабліва польскае падполле не дапусцілі да заснавання і выхаду беларускага часопіса ў тыя часы. Болей таго, гэтак званы Rząd Jedności Narodowej з Мікалайчыкам і іншымі польскімі дзеячамі нацыяналістычнага напрамку ў 1946 г. зачынілі і разагналі ўсе беларускія школы і забаранілі дзе-колечы навучаць беларускую мову і ёю карыстацца ў афіцыяльным ужытку. Аднак задумка адбудовы і навучання беларускай мове і неабходнасці ў беларускамоўным часопісе не памерла, не загінула.

Нанесены польскімі нацыяналістамі ўдар па беларускім школьніцтве не знеахвоціў нашых дзядоў і бацькоў да далейшага змагання за роднае слова ў школе і друку. Пад іх націскам у 1948/9 годзе пачалося аднаўленне навучання беларускай мове. Ішло нялёгка, над ім вісела няўпэўненасць, ці не спыніцца гэтае навучанне праз месяц ці год, былі праблемы з падручнікамі, кадравыя недахопы. Падручнікі, кнігі ў бібліятэкі, часопісы стала прысылаць БССР, але ж усё гэта не адпавядала ні абавязваючым у Польшчы праграмам навучання, ні ўзроўню валодання нашымі дзяцьмі беларускай мовай, ні ўрэшце разуменню савецкай тэрміналогіі тыпу сельпо, саўгас, раён, сельсавет і г.д. і ўсіх іншых рэалій штодзённага жыцця. Настаўнікі і грамадскі актыў усюды дамагаліся сваіх падручнікаў і свайго часопіса. Улады выкручваліся, як уюны, але ў гадах 1951—53 пачалі паддавацца. Міністэрства асветы стала корпацца ля справы перакладаў польскіх падручнікаў на беларускую мову, а ў ЦК пачалі падумваць пра выданне часопіса. Абедзве справы цягнуліся надта ж доўга, ішлі марудна. І ў міністэрстве, і ў ЦК сядзела даволі непрыхільных справе асобенаў. Справы зрушыліся толькі пасля смерці Сталіна і берлінскіх падзей 1953 г.

Падрыхтоўка выдання „Нівы” цягнулася доўга, але ў рэшце рэшт паявіліся яе першыя нумары. „Ніву” з энтузіязмам прывіталі настаўнікі. На яе старонках з'явіліся іхнія кароценькія інфармацыі аб працы, пераважна грамадскай, з тэатральнымі калектывамі дарослай моладзі, размовы з імі журналістаў. І адразу таксама іхняя патрабаванні: змяшчайце больш матэрыялаў не толькі пра жыццё і працу настаўнікаў, школы, але і дапаможных матэрыялаў да навучання роднай мовы, загаварылі пра дадатак для дзяцей.

**Дадатак для дзяцей быў неабходны ў роўнай ступені для школ, як і для „Нівы”. Дзецям — як уласна іхняя газета, дасканалы сродак у фармаванні ўлюбёнасці маладога пакалення да ўсяго роднага, надзвычай карысны і патрэбны дапаможнік настаўнікам у адукацый-**

# Праваслаўныя прыходы ў Беластоку

*(заканчэнне; пачатак у папярэднім нумары)*

У 1865 г., пасля капітальнага рамонту, для патрэб Праваслаўнай царквы прыстасоблена была капліца Марыі Магдаліны. Рост колькасці вернікаў і санітарна-эпідэміялагічныя абумоўленасці сталі прычынай перанясення ў 1882 г. мясцовага могільніка ў квартал Выгода. На тэрыторыі новага могільніка была ўзведзена спачатку драўляная, а пасля мураваная неабарочная царква Усіх Святых. Пабудаваная яна была на плане васьмікутніка з трохбакова завершанай алтарнай часткай і квадратным прытворам. Асвяцілі новую царкву ў 1901 г. Фактарам, які паскараў развіццё сакральнага будаўніцтва ў Беластоку, было размяшчэнне ў горадзе чатырох палкоў расійскіх салдат. У 1879 годзе пачалася пабудова казармаў для Уладзімірскага пяхотнага палка, у 1884 — для Казанскага, у 1887 — для Марыянопальскага і ў 1890 — для Харкаўскага. Дзеля забеспячэння духоўнай паслугі прабываючым у Беластоку салдатам узведзены былі дзве гарнізонныя царквы — **Казанскай Іконы Божай Маці** (пры сённяшняй вуліцы Траўгута) і **св. Серафіма Сароўскага** (пры Кавалерыйскай вуліцы). У 1900 годзе ўзведзена была царква **св.св. Кірылы і Мяфодзія** ў Старасельцах. Паралельна з ёй на могільніку пабудавана была мураваная капліца **Успення ПДМ**. У межах горада, у Фастах, у 1875 г. пабудавалі мураваную царкву **Уздзвіжання Крыжа Гасподняга**, а ў гадах 1893—1895 могільнікавую капліцу **св. Міхала Архангела**. У 1898 г. па ініцыятыве архіепіскапа літоўскага Іосіфа пачалася пабудова новага сабора **Уваскрэсення Хрыстова** пры вул. Сянкевіча і Фабрычанй, на т.зв. пляцы Вызваленя. Інвестыцыя трохнефавага сабора завяршылася непасрэдна перад выбухам І сусветнай вайны. Бежанства праваслаўнага насельніцтва ў глыб Расіі стала прычынай таго, што Уваскрэсенская царква не пераняла ролі галоўнага храма ў горадзе.

У міжваенны перыяд істотным чынам змянілася становішча Праваслаўнай царквы ў Беластоку. Польскія ўлады ставіліся да праваслаўя як да перажытку царскай імперыі і ўсімі сіламі намагаліся паслабіць яго. Ніхто не зважаў на тое, што многія царкоўныя аб'екты былі ўласнасцю праваслаўных яшчэ да падзелаў Рэчы Паспалітай. У 1918—1939 г. у праваслаўных былі адабраны гарнізонныя цэрквы (Казанская і св. Серафіма Сароўскага) і пераменены на каталіцкія касцёлы. У 1919 г. забралі праваслаўным царкву св.св. Кірылы і Мяфодзія ў Старасельцах разам з пляцам і будынкамі. У такой сітуацыі царкоўныя ўлады ў 1928 г. перайменавалі могільнікавую капліцу Успення ПДМ на прыхадскі храм. У Фастах рабіліся спробы прыцягнуць мясцовых праваслаўных да неауніяцкай канфесіі. Каталіцкі касцёл намагаўся пераняць царкву св. Марыі Магдаліны. Католікі забралі таксама дайлідскую царкву і перарабілі яе на касцёл. У 1937 г. пасля працяглых судовых працэсаў гарадскія ўлады разабралі царкву Уваскрэсення Хрыстова, а будаўнічыя матэрыялы перадалі на будову агароджы касцёла св. Роха. У выніку такіх захадаў у горадзе засталіся ўсяго два прыходы — Свята-Мікалаеўскі і Успенскі. Такі стан датрымаўся да першых пасляваенных гадоў.



*Царква Казанскай Іконы Божай Маці ў 1916 г. (цяпер касцёл на вул. Траўгута).*

Пасля ІІ сусветнай вайны дайлідскія прыхаджане адрамантавалі пабудаваную ў 1914 г. капліцу барона Рыдыгера і пачалі ўёй адпраўляць набажэнствы. У 1951 г. капліцу разбудавалі і перамянілі ў праваслаўную царкву. Прыход з цягам часу развіваўся і будова новага храма стала неабходнасцю. Сённяшнюю царкву св. Прарока Ільі вернікі пабудавалі ў 1963—1970 гадах. У той жа самы час прыхаджане ў Старасельцах пабудавалі новую царкву Успення ПДМ. Важным штуршком для будовы новых сакральных аб'ектаў і рамонту ўжо існуючых аказалася стварэнне ў 1951 г. Беластоцка-Гданьскай епархіі. Свята-Мікалаеўская царква набыла тады статус кафедральнага храма.

Асноўныя змяненні ў арганізацыйнай структуры Праваслаўнай царквы на тэрыторыі горада адбыліся пасля 1981 г., калі епархію ўзначаліў **архіепіскап Сава**. Рашэннем новага ўладыкі створаны быў у 1982 г. новы Свята-Духаўскі прыход для кварталаў Антонюк, Дзесяціны, Бацечкі, Беласточак. Пабудавана была двухпаверховая царква **Святога Духа** — самая вялікая ў горадзе. 15 ліпеня 1982 г. заснаваны быў прыход Усіх Святых для кварталаў Выгода, Петрашы і Пячуркі. На тэрыторыі гэтага прыхода ў 1987 г. пачалася будова царквы **Агія Сафія (Прамудрасці Божай)**, якая сваёй архітэктурай нагадвае манументальны візантыйскі храм, узведзены ў VI стагоддзі пры імператары Юстыніяне І. У 1995 г., пасля завяршэння галоўнага корпуса будоўлі, з прыхода Усіх Святых быў выдзелены новы прыход — Агія Сафія. У 1990—1993 гадах узведзена была царква **Еўфрасінні Полацкай** на новым могільніку Свята-Мікалаеўскага прыхода. У 1991 г. пачалася пабудова царквы **Уваскрэсення Хрыстова** ў квартале Сонечны Сток. Вакол гэтай царквы ўзнік новы прыход — Уваскрэсенскі, у састаў якога ўвайшла частка Свята-Духаўскага прыхода. У 1993 г. на тэрыторыі прыхода ў Дайлідах заснаваны быў жаночы манаскі дом. У манастырскім будынку была выдзелена капліца **Нараджэння ПДМ**. У гэтым жа годзе ў квартале Засценкі асвяцілі новаўзведзеную царкву **св. Панцеляймона**, якая стала асновай аднайменнага прыхода. Самая новая царкоўная інвестыцыя — царква **св. Георгія Пераможцы** для кварталаў Новае Места і Кляосін, будова якой пачалася ў 1995 г. Цяпер Праваслаўная царква ў Беластоку налічвае восем прыходаў. Цэнтральнае месца ў іх ліку займае Свята-Мікалаеўскі прыход, пры якім у 1983 г. заснаваны быў епархіяльны цэнтр. У саборнай царкве захоўваюцца мошчы **св. Гаўрыіла Заблудаўскага і Цудадзейная ікона Беластоцкай Божай Маці**. Храм св. Мікалая далей застаецца праваслаўнай кафедрай Архіепіскапа Беластоцка-Гданьскай епархіі.

**Антон Мірановіч**

---

**най і выхаваўчай працы. Для „Нівы" — гэта была дошка ратунку, бо настрымгалоў падаў яе тыраж і ўрэшце панізіўся з 20 тыс. экз. першых нумароў да 2000—1200 асобнікаў. Настаўнікі імкнуліся, каб дадатак быў у класе хаця б адзін на лаўку, або прынамсі адзін у сям'і, калі там было некалькі школьнікаў. У 1958 г. беларускай мове ў пачатковых школах вучылася каля 10 тыс. дзяцей. І вось такім чынам „Ніва" была ўратавана — яе тыраж разам з выхадам „Зоркі" стаў хутка расці і падняўся да 5 тысяч і пайшоў нават вышэй, асабліва ў школьным годзе і падаў падчас канікул да 2-3 тысяч, напалову. З бегам часу „Зорка" здамініравала „Ніву". Фактычна „Ніва" стала амаль дадаткам да „Зоркі".** Дык чаму ж аж два гады цягнулася справа з выхадам „Зоркі"? Улады не спрыялі справе, не давалі паперы, а тым болей не хацелі даць грошай. Але ўсё гэта пераможна адолеў галоўны рэдактар сябра Юрка Валкавыцкі.

„Ніва" ўсё шырэй пачала базаваць на настаўніках і школе, закранаць самыя розныя бакі іх працы і жыцця. Перш за ўсё станавілася ў абарону навучання роднай мове, хваліла, часам і празмерна, добрых яе настаўнікаў і рэзка крытыкавала нядбайных. Пачалі паяўляцца шырэйшыя размовы пра навучанне гэтага прадмета з элементамі абмену вопытам, папулярызацыяй дасягненняў. „Ніва" імкнецца нават стаць „трыбунай абмену вопытам", але, на жаль, гэта аказалася саламяным агнём, ды ўсё ж нешта з таго засталося, бо асоба настаўніка роднай мовы, яго праца і жыццё засталося ўжо да сённяшняга дня адной з галоўных тэмаў „Нівы". Наш часопіс стаў таксама адважным і настойлівым абаронцам малых вясковых школак, іх нялёгкага матэрыяльнага бытавання — журналісты нашы пільна ўзіраліся не толькі ў дзіркі ў падлозе, столі, вокнах, але і заглядалі ў нужнік. Калі не пісалі, дык ішлі ў аддзелы асветы ці куратарыю са скаргаю і дапамагалі самым слабым. „Ніва" ў ліцэях: частыя артыкулы, „старонкі ліцэіста", усе выпісвалі, кожны нумар чытаўся. Ільля Захаравіч Бернат — энтузіяст „Нівы", а сам — украінец.

Паступова пашыралася кола „ніўскіх" карэспандэнтаў, а ў іх ліку прыбывала настаўнікаў, напрыклад, светлай памяці Закройшчык, Перавой і многа іншых. Наогул настаўнікі сталі піянерамі ў пашырэнні беларускага культурнага руху: сужонства Панасюкі, Тапалянскія, Дзун, Мароз, Філіпюк і дзесяткі іншых прапагандавалі „Ніву, засноўвалі гурткі БГКТ, арганізавалі тэатральныя, а потым харавыя калектывы, самі ў іх выступалі і прыхілялі пазашкольную вясковую моладзь да ўдзелу.

Настаўнікі і іншы актыў усё грамчэй дамагаліся ад „Нівы", каб яна была больш цікавая, займальная, але і даступная, патрабавалі больш адукацыйных матэрыялаў. Ну і „Ніва" пачала змяшчаць матэрыялы па гісторыі беларускай літаратуры і культуры, гісторыі Беларусі, мо не цалкам аб'ектыўныя, многае замоўчвала — але не забывайма, што гэта было ў 70—80 гады і час паклаў на ўсё страшны адбітак — звесткі з тагачаснага жыцця Беларусі, надта ж прыхарошаныя, цукеркавыя, але і яны давалі „ніўскім" чытачам вельмі многа — умацоўвалі нацыянальную лучнасць беларусаў Беласточчыны з Беларуссю, нашай „малой айчыны" з „айчынай вялікай". Пры тым „Ніва" змяшчае ўсё болей матэрыялаў па гісторыі, краязнаўству, палітычных і грамадскіх руханх у царскія і міжваенныя часы беларускага насельніцтва Беласточчыны. Вучыла свае гісторыі, прывівала ўпэўненасць, што мы тут ніякае рассеянне, ці дыяспара, але спаконвеку сталыя жыхары на сваёй зямлі. „Ніва" дзеля таго была інспіратарам або суарганізатарам мноства разнастайных конкурсаў па беларускай літаратуры і гісторыі, чытальніцкіх і дэкламатарскіх, тэатральных і харавых, заахвочвала да ўдзелу, публікавала матэрыялы для ўдзельнікаў, пераважна школьнікаў, а праходзілі яны ўдала дзякуючы настаўнікам.

Напрыканцы згадаю хаця адным слоўцам пра „Ніву" і студэнцкі рух. Спачатку раскажу пра самога сябе.

„Ніва" была не адно будзіцелем, арганізатарам беларускага студэнцкага руху, яна была і застаецца ў якойсьці ступені „астраўком свойскасці", „крынічкай айчыны", калі малады чалавек ці дзяўчына апынуцца ў чужым асяроддзі, духова падтрымлівае іх, мабілізуе, натхняе ў крытычны момант, падказвае: „Трымайся, мы ёсць, жывём і ты мусіш жыць, вучыцца, дзейнічаць".

Ці ўсё складвалася гэтак спраўна і хораша, як сёння, у святочныя дні 40-годдзя выглядае? Напэўна, не! Былі і беды, і зломы, і бітвы, і сваркі, і рознага роду калатнеча, шляхетнае і высакароднае хадзіла поруч з ганебным і проста агідным і ў рэдакцыі і навокал яе. Таму што ўсе мы жывыя людзі з усімі станоўчымі рысамі і вялікімі слабасцямі. Затым мы жылі і працавалі ў зусім іншым часе, іншых абставінах, проста — у іншым свеце, і мы былі людзьмі таго свету, таму і мерыць нас трэба меркамі тагачаснымі. Але ўсё ж з немалым гонарам і ўзнятаю галавою можам сказаць: „Нам на пакаянне, у Каносу ісці не трэба", бо "Ніва" на станоўчую ацэнку здала і здае цяжкі экзамен служэння і школьніцтву нашаму і свайму народу.

**Мікола Гайдук**

# 5-я нядзеля Вялікага Посту

(*Марк, 10:32—45*)

У пятую нядзелю Вялікага Посту Царква ўшаноўвае памяць святой Марыі Егіпецкай. Гэтак як Іаан Лесвічнік, згадваны ў мінулую нядзелю, увасабляў паступовы працэс удасканалення, Марыя сваім уласным жыццём паказвае, што няма непапраўнага грэху і чалавек здольны падняцца нават з найбольшага маральнага падзення. Евангельскае чытанне з 10-га раздзела паводле Марка расказвае ў гэты дзень аб прадвесці Хрыстовых пакутаў і смерці. „Вось уваходзім мы ў Іерусалім, — заявіў Хрыстос сваім заклапочаным вучням, — і Сын Чалавечы будзе выданы архірэям, і кніжнікам, і засудзяць Яго на смерць і выдадуць Яго паганцам; і наздзекваюцца над Ім, і будуць біць Яго і пляваць на Яго; ды заб'юць Яго, і на трэці дзень уваскрэсне". Расчараваныя такой перспектывай браты Завядзеевы тут жа выказалі сваю ўтоеную мару: „Дай нам сесці ля Цябе аднаму з правага боку, а другому з левага ў славе Тваёй". Яны проста думалі зямнымі катэгорыямі. За нягоды спадарожніцтва Настаўніку разлічвалі на адпаведную кампенсацыю. У адказ на іхняе славалюбства Хрыстос заявіў: "Хто хоча стацца вялікшым між вамі — хай будзе вам слугою; і хто хоча стацца першым сярод вас — хай будзе нявольнікам усіх... бо і Сын Чалавечы не прыйшоў, каб Яму служылі, але каб паслужыць і аддаць душу сваю на выкупленне многіх".

Улада ў ніякім выпадку не асацыявалася апосталам са службай і наогул рэдка бывае, каб гэтак думалі ўсе кіраўнікі і начальнікі. Міністры пераважна не памятаюць, што сама назва іхняй функцыі азначае „службу". У свецкім паняцці ўлада і багацце — дзве асноўныя мары і мэты, ды мала каго хвалюе, што поспех і кар'ера дэмаралізуюць чалавека. Яны прывабныя і жаданыя, але такія ілюзіі не маюць нічога супольнага з хрысціянскімі ідэаламі і прызваннем.

Ведаючы, што чалавечыя імкненні ідуць уразрэз з гэтай праўдай, Евангелле заклікае задавальняцца сваім паходжаннем, статусам і пазіцыяй у грамадстве. Велічыня Хрысціцеля заключаецца не толькі ў ягонай бескампраміснай барацьбе са злом, але і ў ягоных словах: „Яму час расці, а мне — малець" (Іаан, 3:30). „Я найменшы з апосталаў", — заявіў пра сябе Павел, які як мала хто меў падставу, каб ганарыцца вынікамі сваёй працы. „Гэта не я працаваў, але ласка Божая, якая ўва мне" (1 Кар, 15:10). „Што маеш, чаго не атрымаў ты, — пісаў ён, — калі ты думаеш, што нешта ведаеш, дык Ты яшчэ нічога не ведаеш з таго, што павінен ведаць". Напрыканцы свайго плённага жыцця ён заявіў: „Хрыстос прыйшоў у свет збавіць грэшнікаў, з якіх я першы" (Цім., 1:15). Розум, прыгажосць, таленты мы атрымоўваем дарам. Кветка не можа хваліцца сваім араматам і слуга не можа хваліцца багаццем свайго гаспадара. Высокія пасады дасягаюцца не толькі ў выніку аб'ектыўных, асабістых заслугаў. Хто пераацэньвае свае заслугі, павінен зрабіць сумленны падлік, каб сцвердзіць, што добрага ён зрабіў звыш таго, што павінен быў зрабіць. „Агіда перад Госпадам — кожны напышлівы сэрцам", — гаворыць Святое Пісанне (Прык., 16:5). Гэта тычыцца ўсіх „культаў адзінкі", лідэраў, якія з асалодай успрымалі ўсхваленні, якім ставілі помнікі і спявалі дыфірамбы.

Калі аднаго выдатнага місіянера (Оляфа Скрэфсруда) надзвычай урачыста прымалі і ўшаноўвалі ў Еўропе і Амерыцы, той злажыў толькі рукі і пачаў маліцца: „Госпадзе — абарані мяне ад самаспакусы". І адразу яму міжвольна прыгадалася, як некалі за вельмі непахвальныя ўчынак трапіў у турму і падзякаваў Богу за ўспамін, які прадухіліў самазахапленне сабою. „Калі нехта лічыць мяне вялікім, — пісаў іншы выдатны іерарх, — дык Гасподзь у дабрыні Сваёй дапамагае ўсведамляць, што без Яго я абсалютны нуль. Ён карыстаецца мною як прыладай і я рады гэтай ролі. Сякера не можа пахваліцца дрэвамі, якія ссекла. Без дрывасека, які зрабіў і адтачыў яе, яна нічога не магла б зрабіць. Калі дрывасек адкіне сякеру, яна застанецца толькі марным жалезам. Я ніколі не павінен забываць пра гэтае" (Самуэль Брэнгле). Аб гэтым відавочна не памятаў іншы іерарх, пра якога існавала пагаворка: „Прайшла зіма — настала лета; Уладыку дзякаваць за гэта".

Наогул, кожны чалавек не павінен забываць, што „каму больш дадзена, ад таго і больш запатрабуецца". Улада і высокія пасады павінны ўспрымацца як адказнасць і служба. Тое, што галоўнае і чым сапраўды можна ганарыцца, выказана ў вядомай пагаворцы: „Не месца чалавека ўпрыгожвае, але чалавек месца". Ведаючы пра нездаровыя чалавечыя амбіцыі і адвечны дэфіцыт пакоры, Царква асабліва ў перыяд Вялікага Посту напамінае словы Евангелля, што кожны, хто ўзвышае сябе — будзе паніжаны.

**Канстанцін Бандарук**

# Бібліяграфічны куточак

DUBAVEC Sjarhej: Warszawski dziennik. *Kultura* 1995, nr 6, s. 114-120.

FEDORUK Anatolij T.: Sztuka ogrodowo-parkowa Białorusi w czasach S. B. Jundziłła przełom XVIII i XX wieku. Tł. z ros. Anna Kędziorek. *Kwartalnik Historii Nauki i Techniki* 1995, nr 1, s. 105-106. Sum.

GAWRYLUK Andrzej: Czterdziestolecie dobrego sąsiedztwa (Białoruskie Towarzystwo Społeczno-Kulturalne). *Dziennik Pojezierza* 26.02.1996 r.

Gomółka Krystyna: Między Polską a Rosją. Białoruś w koncepcjach polskich ugrupowań politycznych 1918-1922. Warszawa 1994; Rec. TARKA Krzysztof, *Zeszyty Historyczne* 1995, z. 112, s. 222-223.

HALICKI Sławomir: Poszukiwanie wartości. Z pełnomocnikiem wojewody białostockiego d/s mniejszości narodowych i etnicznych... rozm. Zbigniew Krzywicki. *Gazeta Tygodniowa* 25.02-03.03.1996 r., nr 4, s. 4.

JACKIEWICZ Mieczysław: Mińsk po referendum. *Kultura* 1995, nr 7/8, s. 151-157.

(jen): Muzeum z przyszłością (w Hajnówce) Status państwowy, własność — białoruska. *Kurier Poranny* 24.02.1996 r., nr 47 (1651), s. 4.

MIKOŁAJCZYK Urszula (PAP): Front zmienia front. Czy Polsce zależy, aby Białoruś była neutralna i niezawisła? *Kurier Poranny* 6.03.1996 r., nr 56 (1660), s. 6.

Mironowicz Eugeniusz: Białorusini w Polsce 1944-1949. Warszawa 1993; Rec. RADZIK Ryszard, *Studia Socjologiczne* 1995, nr 1/2, s. 206-212.

MALAVIN Vladimir: Mentalność Zachodu i Wschodu. Tł. Jerzy Abkowicz. *Dziś* 1995, nr 9, s. 61-67.

(PAP): „Niva" zrywa z cyrylicą. *Kurier Poranny* 4.03.1996 r., nr 54 (1658), s. 3.

STĘPNIAK Władysław: Konferencja naukowa w Mińsku (poświęcona archiwoznawstwu, źródłoznawstwu i historiografii Białorusi), *Archeion* 1995, t. 94, s. 251-253.

**Р. С.**

# ПАРНАСІК

## Папрадухі

Калі яшчэ быў хлапчуком малым,
А ўжо гадоў капа мінае з той пары,
Тады ўдзельнічаў я ў звычаі старым,
Які па вёсках праўлялі жыхары.
Як толькі надыходзіла зіма,
Закончацца ўсе працы палявыя,
Жанчынам важнай працы не было,
Толькі ў хаце занятк малыя.
Але за лета, восень назбіралася ім
Работы на ўсе зімовыя вечары і дні.
Палолі, рвалі ды сушылі лён,
Каб палатна наткаць сваёй сям'і.
І вось пра гэта сказ мой павяду,
Як гэты лён бабулі нашы пралі,
Калі Рuздво, значыцца Каляду,
Ды Іардан як належыцца
адсвяткавалі.
Пасля ўжо кожны вечар папрадухі
Зыходзяцца паўтузінам у адну хату.
Асобна замужнія, старухі,
Таксама маладзенькія дзяўчаты.
Сваю кудзеллю кожная нясе
Ды інструмент, што называўся
„колка".
Расселіся навокал усе
І зараз праца закіпела толкам.
Раптам адна з іх песню пачынае,
А так цудоўна, што радуецца сэрца.
І зараз гучна цэлы хор спявае,
Аж у капцілкі задрыжэла шкельца.
Тым часам гаспадыня хаты
Нарыхтавала праллям пачастунак.
Прагаладаліся знямоглыя
дзяўчаты,
Дадасць ім сілы невялічкі трунак.
На кожну з іх свая чарга надыдзе,
Кожная з іх гаспадыняй будзе.
Так вось бяжыць за тыднем тыдзень...
Вось як калісь жылі па вёсках людзі.

**„Улас"**

# Праваслаўная рэлігія ў Варшаве

Праваслаўная царква ў Варшаве ўвесь пасляваенны час вядзе навучанне рэлігіі для дзяцей і моладзі праваслаўнага веравызнання. Навучанне вядзецца ў абодвух прыходах — пры саборы св. Марыі Магдаліны і царкве св. Іаана на варшаўскай Волі. Заняткі пачыналіся калісь з невялікай групы, усяго дзесьці 12 асоб на Волі і падобнай колькасці пры саборы. У пасляваенныя гады для гэтай справы заслужыліся айцец Аляксей Зноска і айцец Павел Стэрлінгаў. Пасля розных хістанняў з навучаннем рэлігіі, якія ўзнікалі з прычыны атэістычнага напрамку тагачаснай дзяржаўнай асветы, пад канец 60-х гадоў усё неяк уладзілася. З 1969 года кіраўніцтва над навучаннем рэлігіі пры парафіі св. Іаана займеў Мікалай Лянчэўскі (малодшы). Ахвотных пазнаваць закон Божы ў школьным годзе 1995/96 толькі на Волі назбіралася больш за 140 асоб (на Празе больш за 40 чалавек). Заняткі рэлігіі наведваюць дзеці праваслаўных жыхароў Варшавы і аколіцы. Навучанне пачынаецца з гэтак званага нулявога класа — 6-гадкаў, аж да студэнтаў. Падзелены яны на пяць класаў, згодна з праграмай навучання.

Апрача закону Божага вядуцца яшчэ навучанне старацаркоўнай мове, царкоўным спевам, музычныя і іншыя заняткі. У кожную нядзелю а 9 гадзіне раніцы ў абедзвюх цэрквах пачынаюцца набажэнствы для вучняў. Старэйшыя прыслугоўваюць пры алтары, чытаюць малітвы. Пасля службы адбываецца супольнае снеданне і далейшыя заняткі.

Асаблівa добрыя ўмовы для вядзення гэтай рэлігійнай школы мае прыход на Волі. У абшырным парафіяльным доме кожная група мае сваю аддзельную залу. Настаўнікамі з'яўляюцца святары, выпускнікі Хрысціянскай тэалагічнай акадэміі і Духоўнай семінарыі.

Вучні прызнаюцца да рaйсейскай, украінскай, польскай, ну і, вядома, крыху беларускай нацыянальнасці. Знайшоўся нават адзін літовец. Сярод тых, якія сваю нацыянальнасць вызначаюць як „narodowość polska", з'яўляюцца дзеці беларусаў з Беласточчыны, якія, пасяліўшыся ў Варшаве ці аколіцы, выбралі сабе „inną narodowość". На пытанне, на якой мове яны размаўляюць паміж сабою, а. Мікалай Лянчэўскі адказаў, што па-рознаму. Найбольш па-польску, але чуецца і ўкраінская мова, крыху расейскай, а беларуская — слаба.

У варшаўскіх школах зусім перасталі навучаць расейскай мове, гэта і з'яўляецца прычынай заняпаду іншых усходнеславянскіх моў як беларускай ці ўкраінскай, — кажа а. Мікалай. Няма быццам ніякіх фармальных перашкод дзеля таго, каб у гэтай незвычайнай школе вучні маглі пазнаваць хаця б у агульных рысах гісторыю сваіх нацый і іх мову. Але як гэта сарганізаваць, на якія сродкі? На мой погляд, вырашыць гэтую справу маглі б толькі бацькі пры дапамозе Кафедры беларускай філалогіі Варшаўскага універсітэта. Але ці ёсць запатрабаванне на гэта? Ці яшчэ асталося штось у душах гэтых спаланізаваных ужо беларусаў і ўкраінцаў? Штось вынесенае з родных вёсак, мястэчак і хат, што часам зашчыміць у сэрцы, адазвецца тугою?..

Добра, што хоць веру праваслаўную захавалі, ды дзецям сваім хочуць яе перадаць.

**Алена Аншэўская**

# Спартыўная зала беларускага ліцэя...

мела быць перададзенай ва ўжытак у канцы жніўня мінулага года, але з недахопу фінансавых сродкаў пабудова запынілася на паўгода.

У пачатку гэтага года работнікі Бельска-падляшскага будаўнічага прадпрыемства пачалі канчатковыя працы: штукатурка сцэнаў, выліванне бетону пад падлогі. Цяпер у зале стаяць рyштаванні, з якіх работнікі кансервуюць ды малююць стальныя канструкцыі залы. Пасля іх увойдуць маляры ад сцен, а затым электрыкі, якія прымайструюць святло. Завяршаюцца таксама працы на трыбунах для гледачоў.

Заканчэнне пабудовы прадугледжваецца на канец жніўня гэтага года. І добра, бо моладзь чакае на залу. **(мг)**

# Шукаюць сяброў у Польшчы

Мне 18 гадоў, вучуся ў Гуманітарным універсітэце ў Менску. Люблю чытаць кнігі і слухаць вельмі розную музыку, а таксама глядзець тэлебачанне. Я ведаю, што ў Польшчы жывуць многія беларусы, якім лёс нашае Бацькаўшчыны зусім не абыякавы.

Я хацела б пазнаёміцца з дзяўчынай, якой 18 гадоў і якая жыве ў Польшчы, але ведае беларускую альбо рускую мову.

**Алена КРАЎЧАНКА**
**вул. Ляшчынскага 43, кв. 37**
**220140 МЕНСК**
**Рэспубліка Беларусь**

Перапісвацца з прыхільнікамі беларушчыны з Беласточчыны хацеў бы таксама

**Юрась КОРБАН**
**вул. П. Броўкі 9-1-130**
**210038 ВІЦЕБСК**
**Рэспубліка Беларусь**

# Позірк у мінулае

**31 сакавіка**

1966 г. — стартаваў „Луннік-10”, першы зонд, які ўвайшоў на ваколмесячную арбіту.

1978 г. — памёр Чарлз Бэст, канадскі фізіёлаг, які адкрыў інсулін.

**1 красавіка**

1548 г. — памёр Жыгімонт I Стары, польскі кароль.

1944 г. — 30 амерыканскіх самалётаў памылкова збамбілі швейцарскі горад Шафхаўзен; загінула 40 чалавек.

1979 г. — аятолла Хамеіні праклamaваў Ісламскую рэспубліку Ірана.

1991 г. — распушчаны Варшаўскі дагавор.

**2 красавіка**

1744 г. — у Шатландыі адбыўся першы турнір гольфа.

1792 г. — долар аб’яўлены адзінай правамоцнай валютай ЗША.

1805 г. — нар. Ханс Крысціян Андэрсен, датскі пісьменнік.

1982 г. — аргенцінскія войскі высадзіліся на Фалклендскіх астравах, што дало пачатак брытанска-аргенцінскай вайне.

**3 красавіка**

1922 г. — па прапанове Леніна Іосіф Сталін выбраны генеральным сакратаром ЦК ВКП(б).

1930 г. — нар. Гельмут Коль, нямецкі палітык.

**4 красавіка**

1949 г. — у Вашынгтоне заснавана НАТО.

1968 г. — загінуў Марцін Лютар Кінг, амерыканскі змагар за правы неграў.

1990 г. — кароль Бельгіі Бадуэн склаў на два дні свае паўнамоцтвы, каб мог увайсці ў сілу закон аб абортах, падпісаць які карало не дазваляла сумленне.

**5 красавіка**

1242 г. — ноўгарадскі князь Аляксандр Неўскі разбіў атрады Лівонскага ордэна на Чудскім возеры.

1964 г. — выпрабавана першы аўтаматычны безэкіпажны поезд у лонданскім метро.

1989 г. — у Польшчы закончыліся размовы „круглага стала”.

**6 красавіка**

885 г. — памёр св. Мяфодзій, славянскі апостал.

1483 г. — нар. Рафаэль, італьянскі мастак. Памёр ён пад той самай датай у 1520 г.

1652 г. — галандзец Ян ван Рыбек заснаваў Капштат.

1890 г. — нар. Антон Фокер, галандскі авіяканструктар.

1892 г. — нар. Доналд Дуглас, амерыканскі авіяпрадпрымальнік.

1896 г. — у Афінах пачаліся першыя Алімпійскія гульні.

1909 г. — амерыканец Роберт Піры ўпершыню дасягнуў Паўночны полюс.

1987 г. — грэчаскі парламент адхіліў праект нацыяналізацыі царкоўнай зямельнай маёмасці.

1993 г. — у фабрыцы плутонію ў Томску адбыўся выбух, у выніку якога наступіла радыеактыўнае забруджанне асяроддзя. **(Ш)**

# Фальклор

## Веснавая песня

— Ой ты, жаваранку,
Ранняя пташэчку,
Ой, чаго так рана
Із выраю выйшаў?
— Не сам жа я выйшаў —
У мяне пташкі былі,
У мяне пташкі былі,
З выраю ганілі.
— Ляці, жаваронку,
У сваю старонку,
Ой, дзе ты радзіўся,
Там корчык свяціўся.
Там табе вадзіца
Па самы крыліца,
Там табе травіца
Па самы калення.

Запісаў **Янка Целушэцкі**

# МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы праводзіць збор грошай на пабудову Музея. Ахвяраванні на пабудову Музея (у польскай і замежнай валютах) просім пералічваць на рахунак: **PKO BP Oddział w Hajnówce, nr konta: 5627-5454-132.**

Жыхары Беларусі могуць уплачваць ахвяраванні на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.

**Спіс чарговых ахвяравальнікаў:**

| | |
|---|---|
| 4586. Зоя Смаршчок (Бельгія) | — 130 дол. ЗША |
| 4587. Мікалай Суліма (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4588. Мікалай Нікалаюк (Гайнаўка) | — 12,00 зл. |
| 4589. Юльян Казбярук (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4590. Ян Скепка (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4591. Уладзімір Юзвюк (Беласток) | — 10,00 зл. |
| 4592. Андрэй Волчак (Ляска) | — 20,00 зл. |
| 4593. Міхал Голуб (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4594. Ніна Прыступюк (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4595. Аляксей Харкевіч (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |
| 4596. Мікалай Уласюк (Гайнаўка) | — 10,00 зл. |

**Дзякуем.**

Наш адрас: **Społeczny Komitet Budowy Muzeum i Ośrodka Kultury Białoruskiej, 17-200 Hajnówka, ul. 3 Maja 42, tel. (0-835) 30-16.**

# ВЕР—НЕ ВЕР

Мілы Астроне! Разгадай, калі ласка, мае сны, якія мне прысніліся ў апошні час. І адзін, і другі маюць сувязь з грыбамі. Але грыбы мне сніліся нетыпова.

У першым сне мы з мужам паехалі ў лес збіраць грыбы. Ходзім па лесе, але лес нейкі не вельмі ўтульны. Шэра, не свеціць сонца. Праўда, лес чысты і не надта густы. Не трэба праз яго прадзірацца.

Ну, дык мы спакойна абое ходзім і шукаем грыбы. На жаль, усюды чыста і ад грыбоў. Дальбог, ніводнага грыбка! А што ж гэта такое?! Так яшчэ ж ніколі не было. Ходзім па лесе, па прасеках, выйшлі на добрую дарогу. Ізноў увайшлі ў лес. Усюды растуць сосны нейкага шэра-зялёнага колеру.

Раптам бачым нейкую паветку. Падыходзім бліжэй, а пад паветкай поўна бульбы! Яна і ў мяшках, і так яе насыпана шмат на зямлі. Не ведаем, чыя гэта бульба, але ў мяне такое адчуванне, што яна падрыхтавана для нас. Дык я напаўняю адну нейлонавую сумку, падрыхтаваную дзеля грыбоў, — бульбай. Няма ў мяне такога адчування, што я гэту бульбу ўкрала.

У другім сне я ізноў у лесе. Бачу пад елкай цэлую сямейку прыгожых, здаровых баравікоў. Падыходжу бліжэй і заўважаю, што зверху шапачкі быццам нехта пасыпаў драбінкамі цукру. О Божа мой, гэта ж мухаморы! Шкада...

Што прадвяшчаюць мае сны?

**Вера**

Вера! Ты спадзяешся, чакаеш кахання, а нешта ў цябе з гэтым не зусім добра выйдзе. У першым сне замест кахання (грыбы) ты атрымаеш нейкі матэрыяльны поспех (бульба). У другім сне тыя праўдзівыя (на вока) баравікі аказаліся атрутай. Сцеражыся кахання, сканцэнтруйся лепш на матэрыяльных справах, там будзеш мець большыя поспехі.

**Астрон**

# ПАРНАСІК

## Гарэлка

Выпіў патроху —
Гэта нямнога;
Трэба папраўіцца
І праслаўіцца.
Так, каб здурэць
І прыкрасці мець
Ды заплаціць штраф
У адзін мах.
П’янага мінаваць —
Лепш з ім не размаўляць.
Уцякай ад яго, як ад д’ябла
Пакуль твая воля не аслабла.
Кажуць — гарэлка для людзей,
Ды, гаворачы карацей
Гэта басні і казкі
Без гонару і ласкі.
Гарэлка ломіць чалавека
Ад векаў.
Робіцца з яго небарака
Падобны на жабрака.
Траціць ён чалавецтва,
Хаця быў людскі з маленства.
Гарэлка яго з’ела
І на душу абсела.
Можа цябе матам абкласці
А таксама і абакрасці.
Трасуцца рукі —
Гэта вялікія мукі.
Не трымаецца моц:
Гэта не злосць,
А хвароба як след —
Выглядае як дзед.
Нос яго чырвоны,
Гэта вынік прытонаў.
Свечку не паставіць
І Бога не праславіць.
Гарэлку кінуць не можа.
Дапамажы яму Божа
Вырвацца з кіпцюроў д’ябла
Пакуль Твая моц не аслабла.

**Мікалай Панфілюк**

# Крыжаванка



**Гарызантальна**: 4. лента, 7. аб’ява, паведамленне з мэтай прыцягнуць увагу, 8. маці Іакава, 9. сыравіна на пражу, 10. жыве ў Манголіі, 14. адкладванне і апладненне рыбамі ікры, 18. эскадраны мінаносец, 19. суконны галаўны ўбор з доўгімі канцамі, 20. горад на Кіпры, 21. журботны лірычны твор.

**Вертыкальна**: 1. сталіца Арменіі, 2. велічыня, вартасць якой выражаецца адной лічбай, 3. касцяк, 4. пласкадоннае судна для пераправы людзей і транспарту, 5. цесць Іакава, 6. ваўняная тканіна, 11. сталіца Эрытрэі, 12. выраблаў гліняны посуд, 13. знаток мясцовых умоваў плавання, 15. казацкі афіцэрскі чын, 16. даўно не аранае поле, 17. жаночае імя.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на вірыванку з 6 н-ра**: Палаван, сталіца, самавар, Варшава, парашут, крыптон, камісар, сістэма, элінізм, мінарэт, квінтэт, Ліворна.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: **Міхал Байко** з Беластока і **Мікалай Сазановіч** з Навінаў-Вялікіх.

# Тэхніка падводзіць?

Ужо некалькі разоў я прыкмеціўб як у белы дзень гарыць вулічнае асвятленне ў Кузаве і на вуліцы Вішнёвай у Чаромсе. Нікому з кузаўцаў галава не баліць. Гарыць, дык няхай гарыць! А мне здаецца, што гэта не так! Гэта ж гміна аплачвае электраэнергію з нашых грошай!

У вёсцы многія жыхары маюць хатнія тэлефоны. Хапіла б пазваніць у гміну і сказаць, каб прыслалі манцёраў для ліквідацыі аварыі.

Ці манцёрам нельга акуратна ўстанавіць аўтаматычны выключальнік, каб ён не гуляў з кузаўцамі ў „жмуркі” і не выманьваў ад гміны грошай надарэмна? **(ус)**


**Ніва**

**„Niwa”**

ul. Suraska 1, 15-950 Białystok, skr. poczt. 149, tel. 421-033.

Druk: „ORTHDRUK”, Białystok, ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Алег Латышонак, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Яўген Мірановіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:** Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Валянцін Сельвясюк.

**Prenumerata.**

1. Termin wpłat na prenumeratę na III kwartał 1996 r. upływa 5 czerwca 1996 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na III kwartał wynosi 9,10 zł (91 000 starych zł).

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 1,45 zł (14 500 starych zł), a kwartalnie — 18,85 zł (188 500 starych zł). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

## Лісіцы

Гаварыла сяброўцы Лісіца
Пад сасной у дзівосным бары:
— За Ваўка выйдзі замуж, дурніца.
— Скажаш, Рыжая! Ён жа стары...
— Пажывеш з ім — сябе не пазнаеш —
Там гусей чарада ля двара...
Хоць пярсцёнкі мае заўважаеш?
А жыву у здыхлякі — Тхара.

* * *

Ёсць Лісіцы (няма на іх зводу),
Што ў каханні шукаюць карысць,
Што ў каханні знаходзяць выгоду
Тхнуць у золаце ўтульнай нары.

**Генадзь Манкевіч**

## Сентэнцыі

У шапцы-няўгледцы і святы зграшыць.

* * *

Калі прайграў, не страляй пераможцы ў спіну.

* * *

Калі пытаеш, перш спытай сябе самога.

* * *

Калі ты з зязюль, не шукай сваіх дзяцей.

**Барыс Руско**

# Ніўка



*— А як там пажывае ў вас мой былы муж?*

Мал. Алега Папова

## Смех у санаторыі
### або „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

Сустракаюцца два сябры:
— Дзе працуеш?
— Нідзе.
— А што робіш?
— Нічога.
— Значыць, маеш добры занятак.
— Добры, толькі канкурэнцыя вялікая.

* * *

— Як злаўлю гэтага Кавальскага, дык галаву яму звярну! — крычыць знерваваны Новак.
— Ці ты здурэў?! — супакойвае яго сябар, — гэта ж твой зяць...
— Ну так! Зараз жа пасля шлюбу з маёй дачкою выдурыў з мяне пяць мільёнаў!
— І што, нічога не аддаў?
— Аддаў! Дачку...

* * *

— Ваш узрост? — пытае лекар пацыента антыалкагольнай амбулаторыі.
— Як бы вам тут сказаць, пан доктар... Вясёлы саракагадовы!
— Сямейная сітуацыя?
— Невыносная.

* * *

На хірургічнае аддзяленне прывезлі маладога матроса, параненага нажом у прамежнасць.
— Штось такое! — гаворыць старшая медсястра, якая бінтуе рану. — У яго на ўсім целе татуіроўка, нават на чэлясе мае нешта напісана...
— А што там напісана? — цікавіцца малодшая медсястра.
— Імя нейкае, „Ева", ці што...
— Наступным разам я буду рабіць перавязку, — ахвяроўваецца малодшая.
Пасля наступнай перавязкі сяброўкі чакаюць яе з нецярплівасцю.
— Ведаеце, — гаворыць усхвалявана, — там напісана не „Ева", толькі „Прывітанні з Сараева".

* * *

— Што гэта такое аліменты?
— Гэта прыемнасць таты, раскладзена на раты.

* * *

Гутараць дзве сяброўкі:
— З чаго маеш такое прыгожае футра?
— З малпы.
— Выдатна на табе ляжыць: выглядаеш, быццам бы ў ім нарадзілася.

Андрэй Кацюбінскі

# Паабедалі ў Рабка

(*гумарэска*)

У панядзелак раніцай выклікаў мяне, Пятра Кастрыцу і Грыцька начальнік і кажа:

— Вось што, хлопцы. Грузіце на машыну зварачны апарат, інструмент, дошкі... Словам, там усё падрыхтавана... І гайда на сядзібу Ігната Піліпавіча рамантаваць гараж. Новую машыну чалавек атрымлівае, дык самі разумееце...

— Сказана — зроблена.

Прыехалі мы на падворак майстра, сюды-туды — узяліся за работу.

На двары — ні душы. Толькі вялізны сабака ля склепа навязаны. І што дзіўна — сядзіць, глядзіць на нас, але не брэша і не гыркае...

— Вучоны, мабыць, — выказаў меркаванне Пятро. Падысці да яго можна, але назад — дудкі, ні за што не адпусціць, аж пакуль гасападар не скажа...

— Цікава, як яго завуць? — кінуў павольна Грыцько.

— Можа, Рэксам або, напрыклад, Барсам, — уступіў у размову і я. — Пародзісты...

— Эх вы, кінолагі, — усміхнуўся Пятро. — Па-ро-дзіс-ты... Так, падраслоўную гэтага пёсіка мне таксама цікава ведаць, але тое, што ў яго жылах цячэ кроў дварнягі, у гэтым я не сумняваюся...

Неўзабаве, калі сонца напомніла пра абед, мы сталі часцей пазіраць не на загадкавага сабаку, а на не менш таямнічыя дзверы шыкоўнага дома пад вязамі. Ці хутка, варажылі, выйдзе хто-небудзь на ганак і ласкава запросіць нас пачаставацца свежым баршчом і пірагом.

Бачым, з дзвярэй сапраўды: выйшла пышнагрудая жанчына ў квяцістым доўгім халаце, а ў руках трымала вялікую каструлю. Мы так і заззялі. Павесялелі. А як жа інакш — харчы нясуць! Але што гэта? Жанчына лябёдкай праплыла міма нас. У ноздры ў гэты міг надта чуткавостра ўдарылі пахі варанага мяса.

— Як у казцы, — прабурчаў Грыцько, — па барадзе цякло, а ў рот не трапіла.

— А ты ўжо і слінку пусціў, — кінуў ўздзекліва Пятро. — Накармілі калачом ды яшчэ і ў спіну таўкачом...

А гаспадыня ў гэты час паставіла каструлю на зямлю, патрапала сабаку па карку і пайшла назад. На работнічкаў, мадам нават не звярнула ўвагі. Рабко яшчэ раз нюхнуў страву, чамусьці пазяхнуў, паказаўшы малінавую пашчу і язык і адвярнуўся ад каструлі.

— Ну і цуд! — ахнуў Грыцько. — Я думаў, што ён такую смакату зараз праглыне!

— Негалодны, напэўна, або апетыту няма, — сур'ёзна сказаў Пятро і як прарок выказаўся адназначна: — Эх, пан ці прапаў, толькі б дома начаваў... — сказаў і рашуча пашыбаваў да Рабка.

— Ты што — ашалеў? — крычым. — Ён жа цябе з шапкай схрумстае!

— Угаманіцеся! — спакойна адказаў Пятро. — Я такіх сабак добра ведаю. Гэта вельмі разумны псіна.

Ага, што ж далей было. А было вось што. Падышоў Пятро да Рабка, прысеў, прыветліва абазваўся, аб нечым загаварыў. Рабко слухае, аж галаву на бок схіліў. Ну зусім як чалавек!

Пятро тады — што ён прыдумаў — рукою ў каструлю лезе. Мы і вочы пазаплюшчвалі. Зараз толькі лахманы паляцяць з нашага таварыша...

Але не, ціха, мірна каля будкі. Мяса паклаў перад Рабком. Той нахіліўся, асцярожна, без мітусні — бач, які горды! Узяў у зубы далікатэс і праглынуў. Пятро зноў пару кавалкаў дастаў, ужо трохі большыя трапіліся — і кажа спакойна:

— Ты, Рабко, ці як там цябе клічуць, прабач і не крыўдуй. Табе хопіць а мы галодныя як ваўкі. Забыліся пра наша існаванне. Вось так, малайчына, дзякуй! Ты сапраўдны друг чалавека!

І вярнуўся наш таварыш да гаража. На радасцях Грыцько збегаў у магазін, прынёс бохан хлеба, у нейкай цёткі разжыўся цыбулінай — і мы слаўна падмацавалі свае сілы.

— Мяса што трэба, адборнае, — яшчэ доўга прыцмокваў Пятро і дадаў: — Добра жывецца Рабку!..

*Пераклаў з украінскай Валерый Бабей*

# Сардэчныя тайны

Сэрцайка, мне 45 гадоў. Я ведаю, што жонак у гэтым узросце часта кідаюць мужы. Ніколі не спадзявалася аднак, што ў мяне здарыцца ўсё так, як здарылася.

Калі я выходзіла замуж, мама паціскала плячыма: „Не магла ты ўжо знайсці больш прыгожага? Такая дзяўчына..." А ў мяне сапраўды адбою ад хлопцаў не было. Магла выбраць, якога хацела. Ну, і выбрала яго: праўда, быў ён у маім узросце, але з доўгім носам, глыбока схаванымі вачыма, ну, не грашыў, адным словам, прыгажосцю. Мяне цягнула да яго, быццам магнітам, так як у маім жыцці дагэтуль ніколі не было.

Калі мы стаялі пад вянцом, збоку данесліся да мяне словы: „Boże, jaki upiór na jej tle!" Мне было прыкра, бо ён быў у маіх вачах найцудоўнейшым мужчынам.

Нарадзілася ў нас дачушка, за якой мы не бачылі свету. Муж быў інтэлектуалам, хата яго не надта прыцягвала, але дзіцяці прысвячаў мноства часу. Браў яе з сабою даволі часта на розныя сустрэчы з цікавымі людзьмі.

Лета мы праводзілі заўсёды разам. З'ездзілі ўвесь свет, хаця я не працавала. Муж зарабляў добра, і нам хапала на даволі някепскае і цікавае жыццё.

Дачка падрастала і ў яе часта збіралася моладзь. Калі стала яна студэнткай, мы часта дазвалялі арганізаваць у нашым доме прыватаі. Месца было шмат, дык можна было разгарнуцца. А, зрэшты, дачка была „на воку". Мала якую крыўду маглі б ёй зрабіць недзе ў горадзе...

У такіх выпадках я, падрыхтаваўшы ім нешта смачнае на вячэру, клалася спаць. Муж любіў круціцца каля моладзі. Падаваў ім ежу, адчыняў бутэлькі з віном, забаўляў іх. Мне нават у галаву не прыйшло, наколькі „паспяхова забаўляў" ён дзяўчат. Толькі тады, калі я заўважыла, што ў найбліжэйшай сяброўкі маёй дачкі пачаў расці жывот, нешта мяне цюкнула. Цікава, хто гэта ёй зрабіў? Не хадзіла ж з ніякім хлопцам...

Думкі пачалі клубіцца ў маёй галаве. Ага! Летам жа паехалі на азёры ўтраіх — муж з дачкою і гэтай яе сяброўкай. Быццам катацца на парусных лодках, а я ж вады баюся... Добра пакаталіся! А мо дзе яе падлавіў на прыватцы? Зрэшты, прыходзіла да нас амаль штодзень, бо яна была з іншага горада і жыла ў інтэрнаце. Я нават падкормлівала яе. Не, немагчыма, адганяла я ад сябе гэтыя страшныя думкі, не была ж бы настолькі бессаромная, каб дэманстраваць мне сваё бруха, у якім узяў удзел мой муж!

Але аднойчы я вярнулася нечападзявана дахаты, бо забылася ўзяць лякарства для хворай маці, і што я бачу! У маім ложку мой муж кахаецца з гэтай дзяўчынай. Калі я, пачуўшы, што нехта ёсць у спальні, адчыніла дзверы, ён ляжаў голы, а яна сядзела на ім, быццам нявінны анёлак, дазваляючы яму падтрымліваць свой жывот.

Я выскачыла са спальні, як ашпараная. Не магла вымавіць слова. Не магла таксама выгнаць мужа з дому, бо віла была яго. „Калі будзе сын — яна будзе маёй жонкай!"— сказаў мне ён. І гэта была ўся заплата за тое, што я выйшла за брыдкага!

Сяброўка дачкі нарадзіла сына. Мы ўзялі развод, а яны пажаніліся. Хлопчыку ўжо чатыры гады. Мой былы муж аставіў нам з дачкою дом, а новай жонцы і сыну купіў кватэру. Пакуль што жывуць згодна. Я надалей кахаю гэтага паскуднага чалавека і не гляджу на мужчын, хаця сватаюцца да мяне з розных бакоў. Дачка, пэўна, застанецца старой дзеўкай, бо не верыць ніводнаму мужчыне. Што рабіць, мо як ён расчаруецца і на гэты раз, дык вернецца да нас?..

**Барбара**

Барбара! На гэты раз — калі нехта расчаруецца, дык гэта будзе яго маладая жонка. Мо тады ён і вернецца, але што з таго...

А вось бачыш, трэба было самой падаваць закуску, а ты клалася сабе спакойна спаць, не ведаючы, каго трэба мець „на воку"...

**Сэрцайка**